

+TV ПРАГРАМА

Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

11 КАСТРЫЧНІКА 2002 г. № 40/4174 КОШТ 322 РУБ



4-5

*Віктар ГАРДЗЕЙ:*
**"Нашай жа маладой літаратуры, улічваючы яе нацыянальныя асаблівасці, патрабуецца тэрмінова дзяржаўная падтрымка. І не толькі дзяржаўная"**



9-15

**Начныя ўспаміны Івана Шамякіна**



10-11

**Ці хадзіць дзеткам Астроўскага глядзець!**

*БУДЗЬМА РАЗАМ У ЧАЦВЁРТЫМ КВАРТАЛЕ 2002 ГОДА!*

*Шаноўныя чытачы! Падпіска на "ЛіМ" працягваецца. Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц — 1950 рублёў, на тры — 5850 рублёў.*
**Індывідуальны індэкс — 63856.**
*Кошт ведамаснай падпіскі на адзін месяц — 3500 рублёў, на тры — 10500 рублёў.*
**Ведамасны індэкс — 63857.**

**«ЛіМ» ЗАЙМЕЎ ЭЛЕКТРОННЫ АДРАС. ПІШЫЦЕ ЛІСТЫ! GAZETA_LIM@TUT. BY**

**Нядаўна сталіца нашай краіны ўпрыгожылася яшчэ адным помнікам. Адлітая ў бронзе Святая Еўфрасіння пастаўлена на праспекце Францыска Скарыны.**

**Фота К. ДРОБАВА**

## КОЛА ДЗЁН

**Ідуць дажджы. І, відаць, мала такіх людзей, якія ў думках не гавораць, каб хоць крыху гэтай непагадзі летам, калі стаяў сухмень... Але, што было — тое было... А ў дождж ёсць магчымасць пасядзець дома і падумаць над тым, што было, што ёсць і чым сэрца супакоіць...**

### *З'ЕЗД ТЫДНЯ*

У Маскве прайшоў Другі з'езд Федэральнай нацыянальна-культурнай аўтаноміі "Беларусы Расіі". У ім удзельнічала больш як 400 чалавек. Сярод іх дэлегацыі 11 аўтаноміі беларусаў: з Краснаярска, Калінінграда, Санкт-Пецярбурга, Масквы, Екацярынбурга, Карэліі, Рэспублікі Комі і іншых рэгіёнаў Расіі.

### *ГАТОЎНАСЦЬ ТЫДНЯ*

Усе рэгіёны нашай краіны, за выключэннем Мінска, у рамках падрыхтоўкі да мясцовых выбараў, якія павінны адбыцца не пазней 4 красавіка, ужо вызначылі колькасць выбарчых акруг. Усяго ж выбары павінны адбыцца ў 1679 сельскіх, пасялковых, гарадскіх, раённых і абласных Саветах. Дэпутацкія мандаты атрымаюць 24 тысячы чалавек.

### *ПЕРСПЕКТЫВА ТЫДНЯ*

Напярэдадні Дня настаўніка міністр адукацыі Рэспублікі Беларусь Пётр Брыгадзін сустрэўся з журналістамі і расказаў пра апошнія змены ў сістэме школьнага навучання. Гаворачы пра скарачэнне колькасці сельскіх школ, міністр адукацыі адзначыў, што адпаведна змяншаецца колькасць беларускіх школ, большасць якіх знаходзіцца ў правінцыі. Зараз у нашай краіне дзве трэціх школ цалкам беларускамоўныя, але яны галоўным чынам малакамплектныя. З-за гэтага па-беларуску вучыцца толькі трэцяя частка дзяцей. Яшчэ 20 працэнтаў двухмоўныя школы. Аднак, зазначыў міністр адукацыі, тэндэнцыі да скарачэння беларускамоўнага навучання няма, а наадварот — яго пашырэнне.

### *УЗРОВЕНЬ ТЫДНЯ*

У Літве стала ўжо традыцыяй праводзіць алімпіяду юных матэматыкаў. На гэты раз у фінальных спаборніцтвах удзельнічалі 15 каманд. Сярод юных матэматыкаў былі і беларусы, якія занялі другое месца, уступіўшы толькі навучэнцам з гімназіі Каўнаскага тэхналагічнага універсітэта. Старшыня аргкамітэта алімпіяды прафесар Рамулдас Кашуба поспех юных беларускіх матэматыкаў ацаніў як сведчанне таго, што навучанне і выхаванне ў школах Беларусі праводзіцца на самым высокім узроўні.

### *ПРАГНОЗЫ ТЫДНЯ*

Дэмографы ААН прадказваюць, што да 2200 года колькасць людзей на планеце дасягне 10 мільярдаў, а потым пачне скарачацца. Аднак не ўсе вучоныя згодныя з гэтым прагнозам. У XX стагоддзі колькасць насельніцтва Зямлі вырасла ў чатыры разы і склала 6,2 мільярда чалавек. З іх на сённяшні дзень 47 працэнтаў жыве ў гарадах, а ў вёсках — 53. Рост будзе адбывацца за кошт гарадскога насельніцтва. Па ацэнках ААН, штогод колькасць насельніцтва павялічваецца на 1,2 працэнта. 97 працэнтаў росту адбываецца ў менш развітых краінах. Лідэрамі з'яўляюцца Індыя, Кітай, Пакістан, Нігерыя, Бангладэш, Інданезія. Чакаецца, што да 2050 года ў Індыі будзе жыць на сто мільёнаў чалавек больш, чым у Кітаі. З развітых краін высокі ўзровень нараджальнасці захаваецца толькі ў ЗША, якія займаюць сёмае месца па тэмпах прыросту насельніцтва. Праўда, 80 працэнтаў прыросту забяспечваюць імігранты.

### *УБОРКА ТЫДНЯ*

З дня на дзень павінна завяршыцца ўборка бульбы. На пачатак тыдня было ўбрана 50 тысяч гектараў, або каля 85 працэнтаў плошчы, якая падлягае ўборцы. Накапана больш 500 тысяч тон "другога хлеба". Сярэдняя ўраджайнасць складае 101 цэнтнер з гектара. Сабекошт бульбы сёлета вагаецца ў межах 180 рублёў за кілаграм. Аднак на рынках бульба прадаецца за 300 рублёў, а то і больш.

### *ДАКЛАДНАСЦЬ ТЫДНЯ*

Беларускія вучоныя правялі новыя разлікі і з вялікай доляй дакладнасці вызначылі геаграфічны цэнтр Еўропы. Ён знаходзіцца ў Віцебскай вобласці на паўднёвы захад ад Полацка побач з возерам Шо. Словам, хто б і як ні вылічваў і ні шукаў цэнтр Еўропы, а ён знаходзіцца ў Беларусі!

### *ЦЭНЫ ТЫДНЯ*

З 1 кастрычніка пуцёўкі ў санаторыі, прафілакторыі і дамы адпачынку ў нашай краіне падаражэлі на 10 працэнтаў. Цяпер сярэдні сабекошт пуцёўкі будзе вагацца ў межах 220—400 тысяч рублёў. Пры гэтым для грамадзян, што атрымліваюць пуцёўкі праз структуры цэнтра па аздараўленні і санаторна-курортным лячэнні насельніцтва, парадак аплаты застаўся ранейшым — у залежнасці ад узроўню даходаў цана пуцёўкі складае ад 15 да 90 працэнтаў яе сабекошту.

### *ПАДВЫШКА ТЫДНЯ*

Для тых, хто мае машыны, на гэтым тыдні, каб карыстацца ўласным транспартам, давядзецца за паліва заплаціць крыху больш, чым на мінулым. За літр бензіна А-76 трэба будзе выкласці 675 рублёў, за бензіны А-92 і А-95 — 845 і 970 рублёў адпаведна, за дызпаліва — 650 рублёў. Кошт на паліва павялічыўся не таму, што ў нашай краіне некаму захацелася гэта зрабіць, а з-за росту цэн на нафту як на сусветным рынку, так і ў Расіі, адкуль мы і купляем гэты энерганосьбіт.

**ВІНШУЕМ!**

# ГІМН — ГЭТА ЖЫЦЦЁ

**Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь паэт, намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Крыніца" Уладзімір КАРЫЗНА ўзнагароджаны ордэнам Францыска Скарыны за плённую творчую дзейнасць на літаратурнай ніве і напісанне тэксту Дзяржаўнага гімна Рэспублікі Беларусь. З гэтай нагоды наш карэспандэнт сустрэўся з Уладзімірам Іванавічам і задаў яму некалькі пытанняў.**



**— Уладзімір Іванавіч, віншуем вас, нашага даўняга лімаўскага аўтара, з высокай дзяржаўнай узнагародай. Сёння ўжо сталі гісторыяй тыя дні, калі вы працавалі над Гімнам нашай краіны. Як успамінаецца вам той творчы перыяд?**

— Пачатак — радасна. І канец таксама, хаця з рознымі нюансамі... Да конкурсу і ў час конкурсу адкрыта і настойліва раскручваў сябе, і яму, вядома, дапамагалі, В. Раінчык, які на першай спробе стварэння Гімна, каля дзесяці гадоў таму назад не прайшоў з тэкстам У. Някляева, а цяпер прабіваўся з тэкстам Л. Пранчака — не лепшым. Песня гэта яшчэ да конкурсу гучала на прэстыжных фестывалях, у Палацы Рэспублікі. Гаварылі, што гэта надрэнная лірычная песня, але з каранямі на далёкай зямлі. У час конкурсу В. Раінчык не сходзіў з тэлеэкрана. Міхась Равуцкі сцвярджаў: "Кожная песня Васіля Раінчыка — шлягер. Геніяльная. І гімн такі..."

У мяне было сваё. Першая мая песня — "Беларусь мая сінявокая" — мае словы і музыка, першая песня, створаная з прафесійным кампазітарам —Юрыем Семяняка, — "Люблю цябе, Белая Русь". Першая з Ігарам Лучанком "Песня аб роднай зямлі", адна з першых папулярных песень, напісаных з Леанідам Захлеўным, — "Вясновая песня Радзімы", з сынам — "На азёрах сініх". Іх шмат, на працягу ўсяго жыцця. Гучаць яны гімнам Радзіме.

Я ўзяў Несцера Сакалоўскага: сапраўды, геніяльная музыка, наша, беларуская, і таму любімая гэтулькі гадоў у народзе. Гімн — гэта жыццё. І тэкст я не прыдумваў. Так мае бацькі жылі, так глядзелі на свет, так жыў і жыву я, так жыве мой народ. Менавіта так, а ўсё астатняе, як кажуць, ад нячыстага. Невыпадкова і народ выбраў Гімн Сакалоўскага, аддаўшы яму найбольш галасоў — 50 тысяч. І было б несумленна, выкінуць з памяці народа імя Міхася Клімковіча.

**— Што вы адчуваеце, калі Дзяржаўны гімн Рэспублікі Беларусь, напісаны вамі, гучыць па радыё, тэлебачанні, на дзяржаўных урачыстасцях!**

—Адчуваю гонар за сваю Радзіму. Бачу свой працавіты, свядомы, мужны і добры народ.

**— На сённяшні дзень вас у нашай краіне ведаюць не толькі як паэта, паэта-песенніка, але як аўтара Гімна. Ці праяўляецца ў ваш адрас зайздрасць з боку калег па пяру!**

— Зайздрасць — сучка куслівая. Адзін не змаўкае крычаць з экрана і газет, што ён лепшы, другі адкрыта прызнаецца ў сваёй зайздрасці, але хавае яе ў двухкоссі, трэці ненавідзіць мёртвых славутых паэтаў за тое, што іх слухаў і шчыра любіў народ. І ўсякая дрэнь байструковая скобліць па жывому. Але ж сабака вые, а караван ідзе.

**— Калі не сакрэт, над чым працуеце сёння?**

— Як усё жыццё — мой стол світае новай песняй аб Радзіме.

**ВЫСТАВЫ**

# ПАД ДАХАМ МЗС

У Міністэрстве замежных спраў праходзіць персанальная выстава вядомага мастака Рыгора НЕСЦЕРАВА.

Яму ўласцівы рамантычна-містычны погляд на рэчаіснасць, паэтычнае ўспрыманне свету. Ягонае мастацтва — цікавая з'ява як для дасведчанага прафесіянка, так і для выпадковага гледача.





**Фота К. ДРОБАВА**

НА ЗДЫМКАХ: "Мокры снег; Р. НЕСЦЕРАЎ.

# МАЭСТРА — ДЫРЭКТАР

У Беларускай дзяржаўнай філармоніі, нарэшце, з'явіўся новы дырэктар. Ад папярэднікаў яго адрознівае творчая прафесія, багаты досвед і добрае імя ў канцэртным жыцці. Гэта мастацкі кіраўнік знанай капэлы "Sonorus" Аляксей Шут.

Прыйшоў ён, вядома ж, на пасаду неспакойную, якая вымагае вялікіх нервовых затрат, настойлівасці да вытрымкі, гаспадарскай кемлівасці ды мудрай дыпламатычнасці... Словам, рэдкаснага спалучэння якасцяў, неабходных для кіраўніка-адміністратара ў складанай творчай установе. Неабходных удвая, утрая — цяпер, калі сталічная філармонія з яе мастацкімі калектывамі, салістамі, тэхнічнымі службамі апынулася ў цяжкіх варунках. Мала таго, што эканамічная сітуацыя ў краіне пагаршае творчы мікраклімат, дык з новага сезона дадаліся арганізацыйныя ды фінансавыя праблемы, спароджаныя закрыццём галоўнай канцэртнай залы, падрыхтоўкай будынка да капітальнага рамонту.

Прыйшоў ён у неспрыяльны час, але з аптымістычным настроем. І — з творчым. Прынамсі, пакуль Аляксей Шут працягвае паўнавартасную працу і са сваім "любым дзіцем" — капэлай "Sonorus". Напярэдадні Міжнароднага дня музыкі салісты капэлы далі канцэрт у Дзяржаўным музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры. А 22-га кастрычніка калектыў возьме ўдзел у спектаклі "Адзінокі птах" — монаоперы Алега Залётнева, натхнёнай паэзіяй і асобай Адама Міцкевіча і ажыццёўленай на сцэне пад кіраўніцтвам Галіны Дзягілевай у мінулым сезоне. Паказ адбудзецца ў Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы.

Прадстаўляючы калектыву Беларускай дзяржаўнай філармоніі новага дырэктара — знанага маэстра, міністр культуры краіны Леанід Гуляка паведаміў, што грошы на доўгачаканы рамонт будынка вылучаны ў бюджэце асобным радком, і новы сезон галоўная канцэртная ўстанова пачне ў сваім доме. Пра гэта "ЛіМ" даведаўся, звярнуўшыся ў філарманічны прэс-цэнтр.



*НА ЗДЫМКУ: А. ШУТ з нямецкім хормайстрам Г. КЕРНЕРАМ.*

**С. Б.**

ВАНДРОЎКІ

# У ІТАЛІЮ — З МУЗЫКАЙ!

Дні культуры Беларусі прайшлі падчас Міжнароднага фестывалю "Свет музыкі" ў італьянскім гарадку Фівіцана. Відавочцы гэтай падзеі сцвярджаюць, што творчасць нашых суайчыннікаў выклікала сапраўды сусветную цікавасць, бо апроч італьянцаў на фестывалі прысутнічалі і ўдзельнічалі ў ім госці з 53-х краін (каля дзвюх тысяч чалавек). Публіку ўразіла і экспазіцыя беларускіх мастакоў, і выступленні вядучых салістаў балета Беларускага дзяржаўнага музычнага тэатра, лаўрэатаў міжнародных конкурсаў Юліі Дзятко ды Канстанціна Кузняцова. Поспех меў і Камерны аркестр пад кіраўніцтвам Валерыя Сарокі — калектыў, які працуе ў структуры Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі на чале з Міхалам Фінбергам. Нездарма беларускіх музыкантаў запрасілі акампанаваць удзельнікам фестывальнага гала-канцэрта.

**Н. К.**



*НА ЗДЫМКУ: заслужаны артыст Беларусі В. САРОКА.*

*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА.*

ПРАЦЯГ ТЭМЫ

# АРГАН АЖЫВЕ?

Без малога пяць гадоў, з мая 1998-га, абмяркоўваецца на старонках "ЛіМа" праблема рамонту канцэртнага аргана ў сталічнай філармоніі. Летась (гл. нумар за 28.09.2001 г., "Прыярытэты, або Пра што маўчала СТБ") дадалося і клопату з прычыны няспраўнасці т.зв. малога аргана, што ў Зале камернай музыкі на Залатой Горцы (касцёл Св. Роха). Наступная публікацыя з'явілася пасля таго, як рэдакцыя атрымала афіцыйны ліст з Міністэрства культуры: ён даваў нейкую надзею на вырашэнне праблемы ("З майстрам падпішуць дамову?", 21.12.2001 г.).

Надзея не была марнай, пра што "ЛіМ" паведаміў у сёлетняй карэспандэнцыі "З вашай лёгкай рукі..." (31.05.2002 г.). З пачатку красавіка наш адзіны і незаменны арганны майстар Станіслаў Чарняўскі, якому дапамагае ў настройцы і доглядзе канцэртных інструментаў сын Генадзь, змог заняцца рамонтам свайго меншага "пестуна", і ўжо 22 мая кампетэнтная камісія прыняла яго працу. На Залатой Горцы загучаў памаладзелы голас дзівоснага інструмента, і ў сярэдзіне чэрвеня тут зноў прайшоў арганны канцэрт.

Адкрыўся новы філарманічны сезон, і вечары арганнай музыкі на Залатой Горцы зрабіліся неад'емнай часткай сталічнага культурніцкага жыцця. Але гэта не адцягнула ўвагу ад старога балючага пытання: калі "з нашай лёгкай рукі" пачнецца рэанімацыя галоўнага аргана краіны — таго, што ў Вялікай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі?

Як паведаміў яе мастацкі кіраўнік Юрый Гільдзюк, з надзённай праблемай капітальнага рамонту філарманічнага будынка так або інакш звязаны і клопат пра лёс вялікага канцэртнага аргана. У Мінску пабывала ўжо група прадстаўнікоў чэшскай фірмы "Рыгер Клос", якая амаль чатыры дзесяткі гадоў таму займалася вытворчасцю і ўстаноўкай гэтага інструмента. Цяпер спецыялісты правялі належную экспертызу і зазначылі, што стан "хворага" не безнадзейны, яго можна выратаваць, вярнуць яму былую моц гучання. Але гэта запатрабуе і значных фінансавых укладанняў, і часу. Майстры з фірмы "Рыгер Клос" вельмі высока характарызавалі свайго беларускага калегу — Станіслава Чарняўскага, які, папрацаваўшы разам з сынам, выдатна адрамантаваў арган, устаноўлены ў Зале камернай музыкі.

Наш майстар, дарэчы, рабіў усё магчымае і немажлівае, каб у складаных умовах, без належнага прафілактычнага рамонту, на працягу 35 гадоў падтрымліваць "здароўе" самага вялікага філарманічнага інструмента. Цяпер яго талент, яго досвед, умельства і апантанасць справай спатрэбяцца дзеля таго, каб вярнуць канцэртнаму жыццю беларускай сталіцы яго візітоўку — адзін з найбольш магутных, адзін з найлепшых арганаў Еўропы. Аднак... спатрэбяцца і грошы.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

НАГОДА

# ПАСПЯХОВАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА

Нацыянальнаму святу кітайскага народа — 53-й гадавіне абвяшчэння Кітайскай Народнай Рэспублікі — была прысвечана святочная вечарына, што прайшла ў Доме дружбы. З вітальнымі словамі да прысутных звярнуліся Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Кітайскай Народнай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь спадар Юй Чжэнь Цы, намеснік міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь Аляксандр Герасіменка, старшыня Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі Ніна Іванова, першы намеснік дырэктара рэдакцыйна-выдавецкай установы "Літаратура і мастацтва" Яўген Новікаў, старшыня таварыства "Беларусь-Кітай" Анатоль Вярцінскі, рэктар лінгвістычнага універсітэта Наталля Баранава. Як падкрэслілі выступоўцы, сёлета спаўняецца 10 гадоў з дня ўсталявання дыпламатычных адносін паміж Беларуссю і Кітаем, поспехі ў развіцці супрацоўніцтва за гэты час можна параўнаць з цэлай эпохай. Вялікая роля ў справе ўмацавання кантактаў, далейшага развіцця добразычлівых стасункаў і даверу між нашымі краінамі належыць моладзі. Як адзначалася, адбываецца актыўны ўзаемаабмен студэнтамі і аспірантамі, у ВНУ Беларусі вучацца 900 кітайскіх студэнтаў, у беларускім лінгвістычным універсітэце на аддзяленні ўсходніх моў маецца магчымасць дасканала авалодаць кітайскай мовай. Падчас вечарыны прайшла прэзентацыя чарговага нумара часопіса "Всемирная литература", цалкам прысвечанага кітайскай літаратуры, створанай ад моманту абвяшчэння КНР, якая знаёміць з празаічнымі і вершаванымі творамі, дамінанта якіх — ідэалы і памкненні народа, што атрымаў вызваленне і волю, ахоўвае родны дом, жыве надзеяй на шчасце. Прысутныя таксама мелі магчымасць пазнаёміцца з работамі навучэнцаў швейнага каледжа, прысвечанымі гісторыі кітайскага касцюма, яго асаблівасцям і адметным якасцям. У выкананні студэнтаў і аспірантаў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі прагучалі кітайскія мелодыі.

**Марыя РУДОВІЧ**

# УШАНАВАЛІ ІОСІФА СТАБРОЎСКАГА

У пачатку верасня на будынку Слонімскага раённага краязнаўчага музея была адкрыта мемарыяльная шыльда, прысвечаная беларускаму археолагу, краязнаўцу, гісторыку, філосафу, вынаходніку, заснавальніку мясцовага краязнаўчага музея Іосіфу Стаброўскаму. Яе аўтар — слонімскі скульптар Леанід Богдан.

На гранітнай пліце скульптар выбіў барэльеф Іосіфа Стаброўскага з тэкстам: "Археолагу, заснавальніку Слонімскага музея Іосіфу Стаброўскаму" і бясплатна падараваў роднаму гораду. Дарэчы, гэта не першая мастацкая дабрачынная акцыя слонімскага скульптара. У свой час ён зрабіў і падараваў музеям і бібліятэкам Слоніма бюсты Валянціна Таўлая, Фёдара Кавалеўскага, Анатоля Іверса, Францыска Скарыны, Гражыны і іншыя мастацкія творы. У дзень 750-годдзя Слоніма Леанід Богдан увекавечыў памяць найвыдатнейшага сына зямлі Слонімскай Іосіфа Стаброўскага.

Іосіф Стаброўскі (1870—1969) нарадзіўся ў Слоніме. Скончыў Полацкі кадэцкі корпус, Александрыйскае ваеннае вучылішча, Маскоўскі археалагічны інстытут і археалагічныя курсы пры Самарскім універсітэце. З канца 19 стагоддзя займаўся гісторыяй і археалогіяй Беларусі, праводзіў раскопкі на Гродзеншчыне і ў іншых рэгіёнах. Збіраў калекцыі кніг і археалагічных знаходак. Удзельнічаў у Першай сусветнай вайне, дамоў вярнуўся ў чыне палкоўніка. З 1921 года вывучаў гісторыю роднай Слонімшчыны. Сабраная калекцыя стала асновай Слонімскага краязнаўчага музея, які ў 1929 годзе адкрыў Іосіф Стаброўскі і шмат гадоў з'яўляўся яго дырэктарам.

Мерапрыемства з нагоды адкрыцця мемарыяльнай шыльды пачала дырэктар музея Ірына Шпыркова, якая расказала пра жыццё беларускага краязнаўца і гісторыка. Прафесар Алег Лойка быў добра знаёмы з Іосіфам Стаброўскім. Алег Антонавіч прыгадаў сустрэчы з ім, а таксама тое, як аднойчы Стаброўскі падараваў яму "Гісторыю беларускай (крыўскай) кнігі" Вацлава Ластоўскага і сказаў, што яна яму ў будучым вельмі спатрэбіцца. Так яно і сталася. Сваё жыццё доктар філалагічных навук Алег Лойка звязаў з літаратурай і кнігай. Мемарыяльную шыльду на будынку Слонімскага раённага музея ўрачыста адкрылі скульптар Леанід Богдан і намеснік старшыні Слонімскага райвыканкама Анатоль Цярэнін. Дарэчы, у гэтай урачыстасці прымалі ўдзел дачка Іосіфа Стаброўскага і яго ўнук.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

*ГОМЕЛЬШЧЫНА*

# "ЗАВАЯВАЛІ" ФРАНЦУЗАЎ

З вялікім майстэрствам выступаюць фальклорныя калектывы "Палешукі", "Янаўцы", аркестровая група харэаграфічнага ансамбля "Янаўцы" Іванаўскага раёна. Яны натуральна і прыгожа дэманструюць багацейшы беларускі народны фальклор. Іх горача віталі ў Чэхіі, Польшчы і Германіі, дзе яны выступалі.

А вось нядаўна іх у госці запрасіла нацыянальная сяброўская фальклорная федэрацыя Францыі. І калектыў у колькасці амаль сорак чалавек наведалі гэтую краіну.

Побач з іванаўцамі ўдзел у свяце прынялі французскія, партугальскія і польскія фальклорныя калектывы. Наладжана было 8 канцэртаў у шасці гарадах. На адным з іх прысутнічала пяць тысяч гледачоў. Па некалькі разоў іванаўцаў выклікалі "на біс", чаго не ўдастойваліся іншыя калектывы. Беларускі фальклор заваяваў сэрцы французаў. Давольныя засталіся і самадзейныя артысты і захавалі шмат уражанняў аб гэтай краіне.

**Анатоль ХАРЛАМАЎ**

ЛІМ-ЧАСАПІС

## «НЕМИГА литературная» № 3(10)

Пабачыў свет трэці сёлетні нумар часопіса "Немига литературная". Ён выдаецца з 1999 года і гэта яго дзесяты парадкавы нумар. Не густа за тры гады з гакам... Ды і тыраж — 300 экземпляраў(?) — аніяк не апраўдвае таго кулуарнага шуму вакол рускамоўнай мастацкай літаратуры на Беларусі (да прыкладу, беларускамоўныя часопісы "ARCHE" і "ДЗЕЯСЛОЎ" выйшлі накладам па 1000 асобнікаў кожны!)... А да ўсяго яшчэ палова аб'ёму часопіса аддадзеная, "по дружбе или по культурному обмену", расійскім калегам з "Литературного Петербурга" (а мо ўжо сваіх талентаў не хапае, хоць як сказаць, вунь у рубрыцы "из поэтических тетрадей" выдрукаваныя вершы ажно 26 аўтараў!). Аднак жа не лікам адзіным, а мастацкай вартасцю вызначаецца паэзія...Асабіста мне падалася чытэльнай дакументальная гісторыя

НЕМИГА
ЛИТЕРАТУРНАЯ

В номере:

Иван Сабило
Николай Коняев
Аркадий Пинчук
Николай Козлов
Анатолий Сульянов

3/2002

("Приказ 00118") Юрыя Кур'яновіча пра дзейнасць у 30-х гадах прамінулага стагоддзя арганізаваных у структуры НКВД органаў ОБХСС (падаю ў рускамоўнай транскрыпцыі). Сюжэтна і фактурна цікавы аповед "Провинциальный синдром" новага беларуса Мікалая Казлова. Ёсць мастацкі густ у вершах В.Ягоравай і Т. Красновай-Гусачэнкі (хіба прачытаўшы такое — ці не прароча? — не задумаешся над нашым будучым):

*Мы по разным дорогам идем.*
*И хоть сердце к тебе*
*еще просится,*
*Раскололась земля. И мой дом*
*На другой половинке уносится.*

Не пакідае чытача абыякавым і рэцэнзія А.Аўруціна "...И видят нас кривыми зеркала" на кніжкі трох мінскіх паэтак і найперш на зроблены з адметным майстэрствам зборнік вершаў "Центр города" неапраўдана прызабытай літаратурнай крытыкай Наталлі Татур (прыхільнікам сапраўднай паэзіі раю набыць яе доўгачаканую кніжку).

У часопісе таксама змешчаныя дзве актуальныя гутаркі: з пісьменнікам і былым лётчыкам А.Сульянавым ("В воздухе и на земле") і з памочнікам міністра абароны РБ палкоўнікам В.Сераштанам ("На страже Отчизны, на страже независимости").

І ўсё ж дамінуючы у часопісе, пагаспадарску "рассеўшыся на покуці", госці з "Литературного Петербурга" са сваімі найбольш яркімі і чытэльнымі творамі. У іх, прызнаемся шчыра, і мастацкая планка прыўзнятая вышэй, чысцей яны і ў мове, і ў стылістыцы...

Асабліва гэта адчуваецца пры чытанні аповесці М.Каняева і вершаў А.Родчанкавай. Неблагое ўражанне пакідаюць проза І.Сабіла і А.Пінчука, вершы А.Раброва і У.Шамшурэнкі.

Самае цікавае, што, зрабіўшы зачын з "исконно русского", загортваецца часопіс усё ж беларускімі словамі дзяржаўнага гімна Рэспублікі Беларусь...

**ЛеГал**

КНІГАРНЯ

# КАЛІ АДГУКАЕЦЦА НЕБА

Народ жыве, пакуль жывіць дух народны культура, і як у заняпадзе з году ў год культура, народ паступова дэградуе, ператвараючыся ў насельніцтва і ўрэшце страчваючы сваю нацыянальную адметнасць. Здавалася б, факт агульнавядомы і нікім не аспрэчваецца, а стаўленне да культуры якім было (узгадайце сумна вядомы рэшткавы прынцып фінансавання), такім і застаецца. Дакладны індыкатар — стан літаратуры, і , мяркую, усе пагодзяцца, што ніколі за прамінулае стагоддзе не апускаўся яго паказчык так нізка: кнігі сучаснай прозы і паэзіі амаль не выдаюцца, а калі і выходзяць, то нікім не запатрабаваныя і не трапляюць нават у школьныя ці раённыя бібліятэкі; рукапісы гадамі марнеюць у сховах выдавецтваў не прачытанымі, літаратурныя часопісы, падпіску якіх для школ, інстытутаў і бібліятэк дзяржава сёння не фінансуе, страцілі тыражы і выходзяць не рэгулярна...

Сітуацыя была б цалкам безнадзейнай, калі б не прычыніліся да літаратуры штогод маладыя, калі б, нягледзячы ні на што, не прабіліся з-пад спуду агульнае абыякавасці іх галасы, гукаючы як у вакуум. Аднаго хтосьці пачуе і прывеціць, другому хтосьці дапаможа надрукаваць колькі вершаў, паспрыяўшы яго далучэнню да пісьменніцкай суполкі, — і рух, няхай амаль непрыкметны і для большасці незаўважны, усё-такі доўжыцца, і зноў, як у паэтычных радках Алены Якаўлевай, гучыць надзея:

*На скрыжаванні ўсіх надзей*
*і думак,*
*Усіх пачуццяў, чыстых,*
*нібы свет,*
*Так хочацца са шчасцем,*
*песняй, сумам*
*Пакінуць у жыцці глыбокі след.*

Пакінуць след! Агучыць пустоты — вось запатрабаванні чыстай маладой душы, і як гэтаму не парадавацца? Гартаю кнігу Алены Якаўлевай "На ўзбярэжжы цішыні", выхад якой пазначаны сёлетнім годам, не проста з цікавасцю — запытальна: з чым прыйшла? што хоча абараніць ці расквеціць? да чаго хінецца душою? І незаўважна ўцягваюся ў прастрань яе думак, вобразаў, настрояў, не-не ды вылоўліваючы ў якім з вершаў радок ці адноаднюткае слоўка, што адрознівае яе, маладую паэтку, ад мяне, ад усіх тых, хто шчыруе на ніве паэзіі каля трох дзесяткаў год. Іх, трэба сказаць, нямала. Прыклады?

*Перад зоркай, як перад іконай,*
*Раптам затрымаю позірк свой...*

*Штоноч адна хвіліна*
*мне адводзіцца,*
*Каб выбрацца з карціны*
*беспамернай.*
*І, апантаная, імчу да Багародзіцы*
*Па цёмнай сцежцы*
*з кволым промнем веры.*




*Уплятаюцца думкі мае*
*У загадкавасць светлае ночы...*
*Раптам здасца, што цэлы сусвет*
*За сялом маім сцішаным сочыць.*

Наўмысна цытую радкі з некалькіх вершаў Алены Якаўлевай у адной прасторы думкі: паэтычны дар яе — у нашым сцёмненым нягодамі і бяздумнымі пераўтварэннямі часе — на дзіва чысты

НАЎЗБОЧ

# ПАМІЖ NIHILем І ARCHE

Роіліся ў маёй галаве і іншыя арыгінальныя назвы для гэтага тэксту, да прыкладу, "ПАМІЖ АНЦІПЕНКАМ І АКУДОВІЧАМ" альбо паміж імі і студэнт(к)амі ці, як трапна заўважыў у сваёй гутарцы з карэспандэнт(к)амі часопіса на самым яго зачыне паэт і мастак Міхал Анемпадыстаў, — "паміж Эўропаю й Расеяй"...

Адным ці трыма словамі кажучы, выдавецкі калегіяльны сверб "вольных слухачоў" Беларускага калегіюму патрабуе літаратурна-грамадскай адзнакі. Шчыра кажучы, так атрымалася, што па часе выхаду ў свет часопіс як бы завіс якраз паміж двума тэрмінамі нашага прэзідэнта... Паміж былымі таварышамі і маючымі быць спадарамі... Таму і місія ў яго павінна была быць як бы прымірэнчая ці хоць бы, беларуска-"соборная"...

Аднак жа нобелеўская лекцыя ірландскага паэта Шымаса Хіні "выскачыла" ўжо з першых старонак выдання, як паддаты Сыс з канапель. Вядома, што ганіць нобелеўскіх лаўрэатаў яшчэ да нядаўняга часу лічылася "дурным тоном". Затое бэсціць (завальваць, тапіць і ўсяк іначай) студэнтаў і асабліва маладых творчых студэнтак — для нас справа звычная, калі не сказаць абавязковая.

З гэтага й пачнём. А менавіта з нізкі вершаў Таццяны Барадзіной, што нагадваюць выдзьмутыя каляровыя пухіры, якія лопаюцца нават ад цяпла працягнутай да іх рукі... Гістарычныя і літаратурныя пасылы ў вершаваных радках маладой паэткі настолькі далёкія і смутныя, што не паддаюцца разгадцы (а мо і напісаныя дзеля таго, каб захаваць мастацкую таямніцу?).

*Манускрыпты чытаюць*
*праправнукі Мура*
*на мове Элама*
*на мове няснай*

Вершы ў сабе і для сябе... Ды, як ні дзіўна, праглядваецца ў іх перспектыва мажлівага "откровения"...

Тэкст Генадзя Дрыгуна "Б..." (?!) канапачытэльны, але ж надта ўжо залежны ад волі і разумовых звілін тых, каму прысвечаны — няголеным настаўнікам — нават візуальна праследжваюцца ў ім асобныя, ужо ведамыя нам з друку, алюзіі: "разбурыць Менск", гэтак як "разбурыць Парыж", каб пасля ўжо "бяз нас" самоцішца па нязбытнай Айчыне...

Аўтар жывы і ў многіх месцах самасны. Ён мае быць сабой, калі цалкам і без супрацўву "не аддасца ў рукі сваім цяперашнім прарокам".

Прачытаўшы напершапачатку такі абзац з "Запісак афіцэра Чырвонай Арміі" Сяргея Пясецкага: "Эх, каб мая Дуня толькі ўбачыла: зь якім гонарам сьмела я крочыў на чале ўсяе Чырвонае Арміі і як абаронца пралетарыяту й ягоны збаўца! Але яна, пэўна, спала й ня сьнілася ёй нават, што я, Мішка Зубаў, стаўся тое ночы героем Савецкага Саюза. Ня ведала, што дзеля таго, каб яна магла спакойна, радасна й у дабрабыце жыць і працаваць, я ішоў у крывавую пашчу буржуазнага зьвера" — то памяць маю адразу ж развярэдзілі абрыдлыя асацыяцыі з маналогамі Фёдара Сухава з шырокавядомага савецкага фільма "Белае сонца пустэльні", і таму далей чытанне давалася неадназначна. Куды цікавейшай падалася пасляслоўная "Аўтадэнунцыяцыя" гэтага аўтара, хоць і напісаная ўсё тым жа іранічным стылем. А скампіляваную перакладчыцай Таццянай Крэмень (з польскай мовы) "аўтабіяграфію" самога пісьменніка Сяргея Пясецкага, народжанага, дарэчы, у Беларусі, і ўвогуле чытаць было не толькі заваблівa, але й карысна.

Навела "Брызэнт" альбо кароткі "тэкст па-за маргальлю і па-за суб'ектыўнымі ацэнкамі" французжанкі Ані Самон, перакладзены Наталляй Куц, нечакана змусіў мяне задумацца й засяродзіцца... "А ці не ляжу і сам я пад тым брызентам?" — кальнула няўзнак. Але гэтае маё запытанне змогуць зразумець толькі тыя, хто прачытае самую навелу французскай пісьменніцы. Раю.

А вось згарадь ад снежнага холаду ў "Белым пакоі" Таццяны Слінкі не надта хацелася. Слоў шмат, але яны, як "вецер у пустэчы", дзе "Пустэча паўсюль. Пустэча паглынае агонь. Пустэча забірае мой голас мае рукі мой позірк пакідаючы толькі страх пустэча, пустэча"... Шкада чалавека-героя з такім станам душы, але гэта ўжо праблемы аўтарскія...

У таго ж, хто пазнаёміцца з творчасцю Алены Дзінман, напэўна, ўзнікне фа-




набэрыстае адчуванне, што падобныя алюзіі ён нягорш выпісаў бы і сам. Як той казаў, ніхто й не перашкаджае...

А вось пераклады ужо згаданай вышэй Таццяны Слінкі са Збігнева Герберта мне падаюцца пакуль нашмат мацнейшымі за яе ўласныя тэксты (увогуле наўмысна прыцягнутае суседства сталых замежных аўтараў і маладых слухачоў калегіуму, за рэдкім выключэннем, вельмі кантраснае, але, бадай, апраўданае для станаўлення і высокамастацкага іміджу самога часопіса):

*Пан Когіта імкнецца*
*дасягнуць чыстае думкі*
*хоць перад сном*
*але ўжо самое памкненьне*
*нясе зародак паразы*

На жаль, я не абазнаны ў паэтычнай творчасці гэтага польскага паэта, але яго "Бездань пана Когіта" не пакіне чытача абыякавым і расчараваным.

Тэксты Элы Кулеш, Эльзы Андрушкевіч, Элеаноры Народнай ды Алеся Мікалайчанкі нечым падобныя да пісьмовых курсавых работ па сучаснай філасофіі на семінары спадара В.Акудовіча, але мне падалося, што "Вужыная кара-

і светлы, і ўжо толькі прыведзеныя радкі пераконваюць, што паэтычны голас належыць прадстаўніцы маладога пакалення, пакалення новага веку. І — не буду ўтойваць! — мне падабаецца гэта пакаленне, мне лёгка дыхаецца ў свеце вобразаў маладой паэткі, дзе кава *"з цёплым кавалачкам поўні"*, а сырадой *"з водарам сушаных зёлачак, з дробкамі студзеньскіх зорачак"*, дзе *"недзе ўгары пад дрыготкаю поўняю комін бубніць у начных скразняках"*, а *"блакітны званочак — напамінкам, што ўсё зажыве"*. І хоць ёсць у зборніку і вершы іншага плану (з "Маскоўскага дзённіка", да прыкладу), яны ўсё ж застаюцца калі і невыпадковымі ў кнізе, то і не вызначальнымі. Кантраст жа ў танальнасці светаўспрымання вясковай дзяўчыны і маладой маці-гараджанкі даволі рэзкі і сведчыць, на шчасце, адно пра злом жыццёвай сцяжыны, а не пра злом душы.

Звычайна ў гаворцы пра першую паэтычную кнігу абавязкова ўсплываюць і якіясь хібы і абмылкі (як жа без гэтага?), але маім пяром вадзіла радасць — радасць стрэчы з паэзіяй! — і таму я адступаю ад звыклага традыцыйна-крытычнага аналізу. Справа не ў тым, колькі "паэтычных знаходак" ці хібаў улоўлівае твой пагляд у кнізе, а ў тым, ці адгукаецца на паэтычныя радкі душа, суперажываючы паэту, пражываючы разам з ім колькі імгненняў яго лёсу, — радасных ці сумных, не так і важна. Важна — духоўнае судакрананне, усплёск, бліск, які асвятліў, высвеціў штосьці ў табе, у тваім лёсе, бо гэта і ёсць адзіная прыкмета сапраўднай паэзіі.

Упэўнена, што Алена Якаўлева прыйшла ў літаратуру невыпадкова (чытала яе рэцэнзію, яе пераклад апавядання амерыканскага пісьменніка), і пажадала б ёй аднаго: не страціць повязі з роднай зямлёй, з роднай вёскай, з роднай мовай. Усё астатняе — на шлях яе душы.

**Таіса БОНДАР**

лева" Э.Андрушкевіч мала ў чым саступае бальшыні тэкстаў нашай жаночай белетрыстыкі.

Цяпер дадам колькі сваіх слоў да вершаванай нізкі Юры Чарнякевіча. Я ўжо аднойчы згадваў пра яго, прэзентуючы нашым чытачам арыгінальную творчасць гэтага таленавітага паэта з Піншчыны, больш за тое, калісьці сам прапаноўваў яго тэксты да друку ў часопісе "Крыніца", таму не буду — сам цяперашні — пярэчыць сабе былому, хоць ёсць падставы папракнуць аўтара ў запаволенасці творчага росту. Скажу, спасылаючыся на словы самога Юры Чарнякевіча, што пакуль яшчэ яго паэзія, як "зяленіва шкла// нам нагадвае// дзіцячую таямніцу"... Магчыма гэта не горшы варыянт супрацьпастаўлення сваёй літаратурнай самабытнасці нашай сучаснай традыцыйнай паэзіі.

Рухомы тэкст "Турысты і бадзягі" Зігмунда Баўмана ў перакладзе з англійскай мовы Э.Дзінман я з удзячнасцю спажыў на карысць уласнага розуму. Філасофія, у меру дазіраваная і выкладзеная добрым стылем, — рэч неабходная, як, дарэчы, і "Пост-філасофская культура" Рычарда Рорты ў перакладзе Т.Чыжовай з усё той жа мовы "глабалістаў"...

Не буду закранаць і абмяркоўваць выдрукаваных на астатніх старонках часопіса рэцэнзій (пераважна кароткіх, але ёмкіх), паколькі зараз і сам пішу нешта падобнае, хіба толькі абазначу іх, каб зацікаўленыя пры неабходнасці маглі з тымі тэкстамі азнаёміцца (А.Мікалайчанка напісаў пра кніжку прозы Іллі Сіна "Нуль", Цынцынат Ц. — пра інтэрнэт-альманах "Klinamen", а Г.Лазюк — пра "Слоўнік свабоды", выдадзены часопісам ARCHE ў 2001 годзе).

Напаследак выкажу ўласнае меркаванне. Мне думаецца, што для ўмацавання сучаснай, а тым больш будучай нашай дзяржавы, і сам Беларускі калегіум, і заснаваны пры ім часопіс, — з'явы не толькі станоўчыя, а проста неабходныя. І калі сёння паміж яго "заснавальнікамі"-выкладчыкамі (найперш добра вядомымі ў элітных тусоўках спадарамі А.Анціпенкам і В.Акудовічам) і студэнтамі ўсталяваўся зацікаўлены дыялог, які зрабіўся прыцягальным і для больш шырокага кола прыхільнікаў філасофіі ды філалогіі, то гэта трэба толькі вітаць. І чакаць актыўнага прыходу ў наша постсавецкае грамадства новых маладых інтэлектуалаў, ну, і — новых нумароў часопіса "Паміж", каму многія нашы чытачы, магчыма, аддадуць перавагу, выбіраючы паміж "ARCHE" і "NIHIL"ем...

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

**АНКЕТА ШТОТЫДНЁВІКА "ЛіМ"**

## Шаноўнае спадарства!

***Аддзел крытыкі штотыднёвіка "ЛіМ" вырашыў запытацца ў вас пра цяперашні стан вашай творчай душы. Надта ж сцішана жывём, мляўка пішам, неахвотна чытаем, абыякава адгукаемся...***

***Але яшчэ ўсё (па інерцыі?), як паказаў нядаўні пісьменніцкі з'езд, бурна апладзіруем адным, затупваем нагамі другіх, надрываем глоткі за трэціх і за саміх сябе, калі справа даходзіць да нейкіх намінальных (і ўжо мала ганаровых) старшынстваў, сакратарстваў і крэслаў для РАДАвання...***

***Няўжо так упрэлі за казённым пад небам роднай Айчыны, шаноўнае спадарства?! Давайце ж страпянёмся, адгонім летаргічны сон, возьмем у рукі асадкі і паперу, сядзем за клавіятуру камп'ютэраў — і апішам прычыны нашай агульнай самоты і заклапочанасці — праявім негатыў уласнага мастацкага свету... Магчыма да яго выяваў цікава будзе прыгледзецца і калегам, і саюзнікам, і апанентам, і чытачам нашай газеты.***

***Вось нашыя пытанні, адказы на якія мы жадалі б атрымаць не пазней як 1 лістапада 2002 года (не болей за чатыры старонкі машынапісу).***

**1. Што вы прачыталі ў гэтым годзе з беларускай літаратуры (рукапісы, публікацыі, кніжкі)?**

**2. Што перачытвалі са "старога" і адкрылі ў ім новае?**

**3. Што найбольш уразіла з прачытанага?**

**4. Назавіце свой суб'ектыўны рад любімых вамі сучасных пісьменнікаў (да 10 чал.), паэтаў (да 10 чал.), крытыкаў (да 5 чал.).**

**5. Над чым працуеце сёння, які маеце літаратурны і жыццёвы клопат, і дзе што сваё мяркуеце надрукаваць у бліжэйшы час?**

***Чакаем допісаў і загадзя вам дзякуем за актыўны ўдзел у сучасным літаратурным жыцці.***

Сёння публікуем першыя два адказы.

## Анатоль КАЗЛОЎ:

1.Працуючы рэдактарам аддзела прозы ў часопісе "Маладосць" (ужо больш за дзесяць год) зразумела, што прыходзіцца чытаць вельмі шмат рукапісаў, як шырока вядомых беларускіх пісьменнікаў, так і пачынаючых, маладых, хто мае пакуль па адной кніжцы. Шчыра хачу сказаць, што за гэты час трапілася вялікая колькасць твораў запамінальных, па-добраму здзіўляючых, высокамастацкіх, арыгінальных, якія і праз шмат вёснаў узгадваюцца, бо глыбока адкладаліся ў памяці.

Прыемна, што маладзейшыя аўтары шукаюць і знаходзяць сваю тэматыку, выпрацоўваюць нечаканыя сюжэтныя лініі. За апошні час мяне найбольш здзівіла творчасць Алены Брава, апавяданне якой прапануе наш часопіс шырокаму колу чытачоў у 9—10 нумары (выходзіць спараная кніжка). Рыхтуецца да друку ў наступным годзе і аповесць гэтай таленавітай аўтаркі.

З асаблівым задавальненнем прачытаў новую кніжку Анатоля Жука "Дзённае паляванне на месяц". У яе ўвайшлі тры аповесці і шэраг апавяданняў. Гэта, на маю думку, ці не адна з самых яркіх з'яў у нашай літаратуры за 2002 год. Аўтар балюча, агаляючы нервовую тканку душы, апавядае пра бяздушнасць і жорсткасць, якая запаланіла жыццё ў сённяшнім дні, калі глухне, чарствее людское сэрца, калі чужы боль нікому ўжо не баліць. Паўсюль "холад адчаю і злосці, холад недавер'я". Выдатнай мовай аповесцяў і апавяданняў можна спатоліцца напоўніцу.

Вялікай бядою для нашай літаратуры можна назваць тое, што перастала існаваць бібліятэчка часопіса "Маладосць". Гэта была своеасаблівая мастацкая школа, праз якую прайшлі дзесяткі, а то і сотні аўтараў. Імёны многіх з іх зараз добра вядомыя чытачам. Але, была...

2. Не вельмі люблю перачытваць прачытанае калісьці. Проста прытрымліваюся такой думкі: што трэба было для маёй душы і памяці — тое засталося, а непатрэбшчына адпала, адляцела. Не хачу карэктаваць тыя першыя ўражанні, што змянілі маё светаўяўленне. Заўсёды лепш пазнаёміцца з нечым новым, чым пераасэнсоўваць, капацца ва ўжо вядомым, шукаць недабачанае, незразумелае. Часта яго так і не знаходзіш. Я думаю — першае ўражанне самае моцнае і трывалае, няхай яно такім і застаецца.

3. Падабаецца замежная літаратура. Вось тут шырокі абсяг для параўнанняў чалавечай душы амерыканца, кітайца, шведа ці японца — з душою беларуса. Іх міжасабовыя адносіны і нашы — гэта, як зямля і неба. Сэрца беларуса, дзякуй Богу, яшчэ крынічна-чыстае ў сваёй большасці, не заплямленае. Мы бачым пакуль чалавечнае ў чалавеку, адчуваем сябе дзецьмі прыроды, цесна паяднаныя з ёю, маем багаты ўнутраны свет. Вядома, мы многае ідэалізуем, але ж гэта найвялікшы набытак, які не згубілі, пранеслі праз стагоддзі. Нашы вочы і душы не засланіла яшчэ поўнасцю грашовая скваплівасць. Мне падаецца, што беларусы ў нечым роднасныя са скандынавамі, у прыватнасці, з шатландцамі. Можа, мы толькі менш ваяўнічыя, ды больш памяркоўныя, што стала ўжо *заганай*, ды не носім кілты, а замест віскі, маем самагон. Гісторыя ў нас такая ж багатая і неардынарная.

За апошні час прачытаў раманы Тэйлар Калдуэлл "Той, Хто Слухае" і "Той, Хто Чуе", навелы Луіджы Пірандэлы, раман Пелама Вудхаса "Непераймальны Джыўз".

Як не сорамна прызнацца, толькі нядаўна пазнаёміўся са славутым творам Генры Філдзінга "Падарожжа ў замагільны свет і іншае". Дадзены твор — своеасаблівая алегорыя жыцця, дзе трэба разгадваць пастаўленыя аўтарам загадкі. Вельмі цікава, бо трэба ўвесь час думаць.

4. Гаворачы неяк з Уладзімірам Максімавічам Дамашэвічам пра творчасць і творцаў, пачуў прыкладна такое меркаванне, што ў літаратуры, як і ў лесе, павінны быць не толькі дубы-волаты, але і сасонкі, елкі ды бярозы, кустоўе вербалозя і арабіны з калінаю. Толькі ў такім разе лес цікавы і прыемны воку, не надаедлівы. Кожнаму ёсць на чым спыніць свой позірк, пабачыць любімае дрэва, захапляцца ім. Вось так і ў літаратуры, мастацтве. Кожнаму важна знайсці сваё, што адпавядае ягонаму светапогляду, настрою, жыццёвай канцэпцыі. З чым я згодны.

5. Аддаў у часопіс "Полымя" невялікую аповесць "Раздарожны саракоўнік", зараз заканчваю містычны твор.

## Анатоль АЎРУЦІН:

1. Так ужо атрымліваецца, што прафесія мая дазваляе (і прымушае) найперш чытаць тое, што пакуль яшчэ не стала кнігай ці часопіснай публікацыяй — рукапісы твораў, якія трапляюць у рэдакцыю часопіса "Немига литературная", які я рэдагую. Зразумела, што ў асноўным гэта творы на рускай мове, але створаныя літаратарамі нашай краіны і ўжо таму беларускія. Некаторыя з іх я меў асалоду адрэдагаваць для выдавецтва "Тэхнапрынт", якое, апроч нашага часопіса, выдае цяпер шмат добрых кніжак на абедзвюх дзяржаўных мовах. Асаблівае задавальненне атрымаў ад кніжкі паэзіі Наталлі Татур "Центр города". Некалі, яшчэ ў 70-х, Яўген Еўтушэнка, выступаючы на беларускім тэлебачанні, назваў Наталлю лепшай беларускай паэткай. Пасля гэтага зайздроснікі зрабілі ўсё, каб у яе не выйшла дома больш ні адзінага зборніка...

З цікавасцю адрэдагаваў і кніжку прозы Мікалая Казлова "Провинциальный синдром". З захапленнем прачытаў салідны зборнік мінскага паэта Канстанціна Міхеева "Прощание с Мнемозиной", які нядаўна выдадзены ў Маскве. Мяркую, што і ў Расіі кніжак такога ўзроўню небагата. Крыўдна, што названыя прозвішчы мала што гавораць беларускаму чытачу — мясцовая крытыка не звяртае ўвагі на гэтых аўтараў. А вось у Саюз расійскіх пісьменнікаў Н. Татур і К. Міхеева, як і яшчэ звыш за 20 нашых землякоў, прынялі без праблем...

Нядаўна адрэдагаваў і беларускамоўны раман маладога празаіка Міхася Южыка "Перакулены час". Добрая будзе кніжка.

2-3. Зараз усё больш перачытваю антычную літаратуру, нешта перакладаю з яе. Вось дзе бездань мудрасці чалавечай! З беларускамоўных твораў нядаўна зноў перачытаў "Веча славянскіх балад" Янкі Сіпакова, лепшае, на мой погляд, са створанага сучаснай беларускай паэзіяй. У прозе мая слабасць — творы В. Казько. Не прапускаю ніводнага ягонага рамана ці аповесці.

4. Для мяне самыя сучасныя — гэта паэты "срэбранага стагоддзя" — Блок, Пастэрнак, Ахматава, Мандэльштам, Цвятаева, Бальмонт, Хадасевіч, Балтрушайціс... З пазнейшых — Забалоцкі, Таркоўскі, Рубцоў, Прасолаў, наш зямляк Веніямін Блажэнны. З беларускамоўных паважаю творчасць М. Танка — паэта еўрапейскага ўзроўню, А. Разанава, У. Марука, К. Жука, У. Някляева, Р. Баравіковай...

У сусветнай прозе лепшыя для мяне — Маркес, Борхес, Кафка, О'Генры, вядома ж — Дастаеўскі, Чэхаў, Салагуб, які ў гэтым жанры мацнейшы, чым у паэзіі, У. Набокаў, Замяцін, Шукшын... З беларускіх празаікаў люблю, акрамя В. Казько, творчасць М. Стральцова, з якім доўгі час сябраваў. Куды менш, чым раней, кранае сённяшні В. Быкаў...

5. Толькі што ў Санкт-Пецярбургу, у выдавецтве пісьменнікаў "Дума", выйшаў зборнік маёй выбранай паэзіі "Золоченая бездна". Між іншым, пасля адзінаццацігадовага перапынку, выкліканага развалам СССР, гэта першая кніжка пісьменніка з нашай краіны ў гэтым горадзе. Пацiху збіраецца і рукапіс новай кніжкі пад умоўнай пакуль што назвай "Стоптанное небо". Дзе яе выдаваць? На "Мастацкую літаратуру" спадзявання небагата. Але добра, што зараз можна звяртацца ў недзяржаўныя выдавецтвы, самому "рабіць" свой літаратурны лёс. А ўсе размовы пра несур'ёзнасць недзяржаўных выданняў здаюцца мне проста смешнымі — усё ж залежыць ад якасці рукапісу, а не ад прыналежнасці выдавецтва. Заўважу дарэчы, што і сам Саюз пісьменнікаў — таксама арганізацыя грамадская, а не дзяржаўная...

## ЛІМ-ЧАСАПІС

# «АТЛАНТ» ПАЭТЫЧНЫ

Пабачыў свет першы ў гісторыі закрытага акцыянернага таварыства "Атлант" паэтычны зборнік "Прыналежнасць-Сопричастность", на якім прадстаўлены творы паэтаў, якія працуюць на прадпрыемствах ЗАТ "Атлант"—Мінскім заводзе халадзільнікаў ды Баранавіцкім станкабудаўнічым заводзе.

Выданне гэтага зборніка стала магчымым дзякуючы падтрымцы і фінансавай дапамозе прафкама Мінскага завода халадзільнікаў і яго кіраўніка Валерыя Нікаленкі. Як адзначаюць складальнікі зборніка ў прадмове: "Сваю любоў да паэзіі, свае першыя паэтычныя радкі гэтыя людзі гартавалі пасля напружанай працы на атлантаўскіх будоўлях, на канвеерах буйнейшага беларускага прадпрыемства, ля інжынерных кульманаў ды складанейшых камп'ютэраў..." Але гэтыя творы не проста ўзоры так званай "рабочай паэзіі". Хоць сапраўды, у творах заводскіх паэтаў М. Сюрына, У. Анішчонка, Е. Богуш тэма роднага прадпрыемства — адна з дамінантаў іх творчасці. Але не толькі лёс роднага прадпрыемства




хвалюе паэтаў. Бадай, што асноўнай тэмай творчасці атлантаўцаў з'яўляецца тэма Радзімы, яе працалюбівага народа, цудоўная прырода роднай Беларусі. Аўтары, якія працуюць на Баранавіцкім станкабудаўнічым прадпрыемстве -- І.Абрамовіч, А. Дрозд, Т. Пракапенка — вельмі востра перадаюць у сваіх творах пачуцці, што пануюць у іх душах падчас вяртання на сваю малую радзіму, калі яны ўспамінаюць гады дзяцінства.

Бадай адным з эмацыянальных цэнтраў зборніка — творчасць самага сталага атлантаўскага паэта — У. Анішчонка. Ветэран прадпрыемства Уладзімір Андрэевіч Анішчонак і сёння застаецца адным з актыўных аўтараў паэтычнай старонкі заводскай шматтыражкі "Атлант", шмат выступае са сваімі творамі на Беларускім тэлебачанні. Яго вершы "Асенні час", "Сэрцу родны бацькоўскі куток", "Кросны" хоць і ствараліся пад уплывам класічных узораў, нясуць чытачу шчырыя пачуцці былога вяскоўца, які марыць пра вяртанне ў родную старонку, да родных бацькоўскіх гоняў ды хат.

Вялікую цікавасць для чытачоў-аматараў паэзіі ўяўляюць творы іншых аўтараў зборніка "Прыналежнасць-Сопричастность" -- Д. Гваздовіча, М. Сюрына, М. Хмялеўскага, С. Саколіна, А. Свірбутовіча, якія ствараюць свае вершы на рускай мове. У іх філасофскі пачатак спалучаецца з лірыкай, роздумам над жыццёвымі шляхамі, што вядуць людзей да дабрыні, спагады...

Іншых жа аўтараў зборніка дасведчаным чытачам прадстаўляць не мае сэнсу. Бо ім добра вядомая творчасць былога карэспандэнта-арганізатара бюро Саюза беларускіх пісьменнікаў Анатоля Кудласевіча ды сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў Януся Мальца, якія сёння працуюць на Мінскім заводзе халадзільнікаў. Творчасць гэтых майстроў паэтычнага радка прадстаўлена лірычнымі вершамі, вершамі-роздумамі над самымі складанымі праблемамі быцця і творчасці.

Мемарыяльная частка зборніка "Прыналежнасць-Сопричастность" прысвечана памяці заўчасна загінуўшага сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў, былога кіраўніка Літаб'яднання БСЗ ЗАТ "Атлант" "Жывень" Анатоля Станкевіча. Тут змешчаны вершы, прысвечаныя трагічным ваенным гадам, якія выпалі на долю паэта, паэтычныя споведзі творцы, які ўсё сваё жыццё заставаўся простым рабочым.

Паэтычны зборнік "Прыналежнасць-Сопричастность"—сведчанне таго, якую немалаважную ролю на МЗХ і БСЗ ЗАТ "Атлант" адміністрацыя, прафсаюзны камітэт адводзяць мастацкай творчасці працоўных. І добра, што многія творчыя ініцыятывы, што рэалізуюцца на прадпрыемстве, толькі ўзбагачаюць сучасную беларускую культурную палітру.

**А. МІТРАНОВІЧ**

## ПАЭЗІЯ

### Раман ТАРМОЛА-МІРСКІ



***

*Глядзі ў сябе, шчаслівец
і пакутнік!
Ты проста нуль, калі
не разглядзіш
Сваю Айчыну, у якой прысутны,
Яе бунтарства і глухую ціш...*

*Няма краін у свеце ідэальных,
Людскую святасць сам прыдумаў
люд:
Так хочацца вандроўнікам
астральным
Узвысіць гронкабэзавы наш кут.*

*Вялікая да гэтага спакуса
Як павісае ў цемры надзямной
Замахам вельмі рэдкім беларуса,
Якога ўратаваў выпадкам Ной...*

***

*Без таямніцы свет — не свет,
Яго падробка, падабенства;
Паміж вар'яцтвам і шаленствам
Хаваецца жыцця сакрэт?
Там, дзе нас вобмацак вядзе,
Таемнасць паддае адвагі —
Прарэзваецца позірк Вангі
І ноччу бачна, як удзень.
Прарокі сярод нас жывуць
У нейкай разумовай сіле
І ланцугі на людзях рвуць,
Нібыта павуціну крылле.*

***

*Сёння выдыхнуў верш я пра нас.
І адразу нібы палягчэла,
Як з душы раптам ссунута цэгла
Ці адкінуў ад сэрца абцас.
Колькі набрыдзі выдаў нам час
Хіба д'яблам адно пахвалёнай!
Мо ад крыкаў ад сварак шалёных
На акне засыхае альвас.
Нават кветкам няміла цвісці
У штодзённых слязах,
калатнечы.
Дні спакою нам, лёс, адпусці,
Дом багаты без кветак — галеча.
Нас чакае страшэнны калапс,
Як не возьмемся разам за розум
І не зменшым нялюбасці дозу.
Сёння выдыхнуў верш я пра нас...*

***

*Этапы любога ў нас шляху
Аднойчы, як прывіды дзён,
Гісторыяй стануць ці прахам,
Заслужаць паклон ці праклён.*

*Жывыя паставяць адзнакі
Усім, хто ўжо выпаў з жыцця,
Забудуць аб тым, небаракі,
Што самі працяг небыцця.*

***

*Настрой няпэўны як і час
няпэўны.
Міражны нейкі, лепш сказаць,
настрой.
Курэй таптаць больш
не жадаюць пеўні,
А навабранцы станавіцца
ў строй.
Усе бягуць ад некага хавацца.
І даганяюць некага усе.
За сэрца кожны трэці стаў
хапацца,
Як хто старому сумку паднясе...
Спагада стала ў нас
неверагоднай!
Пайшлі серп з молатам
і крыж на злом,
А шчыры клопат выглядае злом.*

## Уначы ля вады

*Харство купаецца ў рацэ,
Валасамі, позіркам струменіць,
Свет вады трымае дробнай
жменяй,
Неба свет у тоненькай руцэ.*

*О як усплывае бляск плячэй
Над стыхіяй і рачной і ўласнай.
Маладзік туманіца няясна,
Рэчка заціхае, не цячэ.
Пры такой прыроднай варажбе
Прыгадзяцца забабоны, прымхі.
Мне цяпер не да дакладнай
рыфмы.
Харство само тут па сабе.
Што неспадзяваны я глядач,
Ёй, прызнацца, і не абыходзіць,
Увайшла ў стыхію і выходзіць
Хораша. Адкрыта. Смейся, плач,
Рот аж на паўнеба разяўляй —
У сябе адно яна глядзіцца.
Маладзік замглёна маладзіцца
І правальваецца ў небакрай...
Госпадзі, навошта абразы
Столькі саматужнікаў
крызмоляць?
Голая свіціцца вунь між голля,
З ёю першай споведзі азы.
Дзе падзелася, куды сплыла
Ад майго пра боскасць уяўлення,
Вось жа назіраў я абнаўленне
Вечнага жаноцкага святла...*

***

*Пад аховай Авена.
Пад прыглядам таемным агню
Самаспальванне генаў
Я ніколі нічым не спыню.*

*Месяц, меч не дамоклаў,
Рассякае нервовую ніць
І сузор'е не ў вокнах —
У вачах таямніча стаіць.*

*Нажыўлю сваё сэрца
І закіну ў жаночы пагляд...
Можа, зорка заб'ецца
На кручку здабыткаў і страт.*

*Гэта лёс, дарагая,
Трапятацца сэнсу няма.
І Авен абдымае
Сягоння цябе нездарма.*

*Не таму што на небе
Можна шчасце адно падлавіць,
А таму што на глебе
Нам з табою не згінуць —
На глебе любві.*

### Васіль ЖУКОВІЧ



## Мелодыя цвіцення і святла

***

*Кветак цуд, пладоў
і лістападаў,
цішыня і свежы ветру шум...
Леты, восені сваім адвечным
ладам
радуюць і ўзрушваюць душу.*

*Цвет завеяў.
Цвет бялюткі вішняў.
Зор святло,
хмурынкі дзе плылі...
Ты не вечны, але ты не лішні
на адвечна-зменлівай зямлі.*

***

*Пад поўняю — вішнёвы
белы сад!..
Ці бачылі карціну вы такую?
Зямная і нябёсная краса
санату нараджаюць веснавую.*

*У цвеце вішні — не відно жытла,
як месяц заваарожаны ні свеціць.
Мелодыя цвіцення і святла
жыве, няўлоўная ў святле
і цвеце.*

***

*З такой пранізлівай красою
адкрыўся вобраз твой жаночы!
Што мне тваё казалі вусны,
адразу паўтаралі вочы.*

*Як я хачу, каб часу хвалі
пачуццяў згоды не забралі,
каб зноў усё, што скажуць
вусны,
тваё мне вочы паўтаралі.*

***

*Хай будзе думка ўцешнаю:
не сеем зла і бедаў мы.
А што ўсе людзі грэшныя,
хто ж гэтага не ведае!*

*Разлукі намі зведаны.
І радасці не ўкрадзены
і не забіты бедамі,
таму што небам дадзены.*

***

*Я
быў
табой
паланён.
Ведала ты
й пакахала,
ды нашы зоркі
захмарыла ўраз.
О, ці згадваеш ты
нашых зорных нябёсаў
вышыню, чысціню і красу?*

***

**Таццяне Фамінчук**

*Сустракаў я не Вас —
хтосьці іншы
ішоў мне насустрач.
Сустракаў Вас не я —
Вам насустрач ішоў
нехта іншы.
Але так не магло быць заўсёды.
Паміж намі прастора была,
а ў ёй — наша чаканне.
Цуд адбыўся,
бо словы мае,
што дарыў шчодра беламу свету,
да відушчых вачэй даляцелі
і да чуйнага слыху.
Вось над імі зашчабяталі
гучна ластаўкі нотаў,
жаўрукі заспявалі, салоўкі.
Нарадзілася песня.*

***

*Перш чым ураган часу
выб'е градам
ураджай валасоў,
залацістых калісьці і пышных,
здратуе бязлітасна
поле чала і твару,
няпорсткаю зробіць хаду
і, астуджаючы паступова
кіпеннем маёй крыві,
забярэ мяне з раю восені
ў пекла суровай зімы
ці, можа, з восені пекла
ў няўцямны зімовы рай,
перш чым здарыцца г э т а, —
я ўсю чыста аддам
цеплыню майго сэрца,
о, Жанчына, табе,
як калісьці аддаў
Еве грэшнай
Адам.*

# НАЧНЫЯ ЎСПАМІНЫ

**Іван ШАМЯКІН**



## ГАНАРАР

Не выплачваецца ганарар. Па некалькі месяцаў. Няма грошай у дзяржаве. Затрымліваецца выплата зарплаты, пенсій. А логіка ў чыноўнікаў была і засталася: ганарар не плата за працу, а так сабе — "левая халтура", яе можна затрымліваць беспакарана, ніхто не спытае. Свядомасць іх не дарасла да свядомасці майго бацькі, які меў адукацыю — два класы царкоўнапрыходскай школы. Успамінаю адзін эпізод.

Будучы на пенсіі, бацька гасціў у мяне, вядомага ўжо пісьменніка. Маша прасіла мяне выканаць нейкі хатні абавязак. Я адмаўляўся:

— Мне трэба работаць.

Бацька хмыкнуў:

Хіба гэта работа?

— А што ж гэта, па-твойму? — здзівіўся я.

— Пісаць – работа! – хмыкнуў стары.

— А за што мне грошы плацяць?

— Грошы табе плацяць за розум.

Вось так разумеў ляснік! Не разумеюць чыноўнікі, што за розум трэба плаціць, бо праца гэтая патрабуе не меншай затраты энергіі, і яе трэба папаўняць хлебам з маслам. Не, сваю працу яны цэняць – падлік грошай, тавараў, складанне адказаў на зварот грамадзян. Як правіла, напісаных па шаблоне. Унікнуць у сутнасць скаргі чалавека — гэта праца разумовая, эмацыянальная, яна патрабуе затраты энергіі, а на такі подзвіг ідуць не ўсе, а шануюць сваю працу ўсе, ставячы яе вышэй і за працу сталевара і за працу кампазітара, мастака, раманіста, акцёра. І – о, як абураюцца, калі ім затрымліваюць зарплату за іх "адданую" працу, на якой, лічаць і яны і тыя, хто кіруе імі, трымаецца дзяржава. Але ж дзяржава – для ўсіх, роўна да ўсіх павінна адносіцца. У гэтым яе сутнасць і яе моц, яна – што добрая маці: усіх павінна накарміць.

За сваё доўгае пісьменніцкае жыццё – амаль у шэсць дзесяткаў гадоў, помню яшчэ адзін нядоўгі, гады ў тры, перыяд, калі затрымлівалася выплата ганарару. Было гэта неўзабаве пасля вайны – у пачатку пяцідзесятых гадоў. Не дзіва, ішло такое аднаўленне разбуранага! Аднак колькі выходзіла кніг, маю на ўвазе мастацкіх, — на сотню членаў Саюза пісьменнікаў па паўсотні кніжак у год тыражамі па дзесяць тысяч экземпляраў. Пішыце толькі, хлопцы! Рукапісы вашы не будуць ляжаць у шуфлядах ці пад канапамі. Здзіўляюся зараз: як паспявала адзіная даваенная друкарня імя Сталіна, з якой у час акупацыі падпольшчыкі палавіну шрыфтоў перанеслі ў лес – партызанам.

Можа, таму тая затрымка ганарараў прыгадваецца не як сумная, трагічная, а як вясёлая падзея. Ды і не было так, каб зусім не плацілі. Не! Кожны месяц быў ганарарны дзень. Але плацілі малымі долямі – на пражыццё, каб не галадалі творцы. Каму колькі з яго заробленых грошай выдаць – вырашаў дырэктар выдавецтва Матузаў Захар Пятровіч. Цікавы чалавек быў Захар! Характар. Тып для рамана. Дзялёжка гэтая была нялёгкай часцінай яго дырэктарскай працы. Напярэдадні ганарарнага дня ці ў той дзень да яго хадзілі дзесяткі людзей, прасілі, малілі: дай больш. "Жонка ў бальніцы". "Бацька хату не можа дабудаваць". "Гаспадыня з кватэры выганяе – тры месяцы не плацім".

А Захару трэба было яшчэ захаваць "табель аб рангах". Якубу Коласу менш 15 тысяч не дай. Броўку даў пяцьу мінулы раз, і той прыходзіў абураны. Значыцца, маладому Мележу або Шамякіну можна ўрэзаць. (За першае выданне "Глыбокай плыні" мне налічана было 52 тысячы, і я атрымліваў гэтыя грошы больш года, паліто не мог купіць, хадзіў у юнраўскім плашчыку ці зімой у чорным кажушку, купленым на Гомельскім рынку у 1946 годзе яшчэ за ганарар "Помсты").

Захар Пятровіч звычайна быў добры чалавек – кантактны, добразычлівы, не без гумару. Але ў дні дзялёжкі ганарару пераўтвараўся – не пазнаць вонкава: сядзеў чырвоны, што рак, натапыраны, здавалася, каротка падстрыжаныя валасы дыбіліся, як у дзікабраза.

— Усё грэшы, грэшы! – злаваўся на прасіцеля. – Адкуль іх узяць!

Быццам грошы гэтыя былі не дзяржаўныя, а яго ўласныя.

Пра яго сачынялі эпіграмы. Злоснікі ці падхалімы падкідвалі ці данасілі "сачыненні" да яго, і ён моцна крыўдзіўся, аднак не помсціў. Успамінаю некаторыя з эпіграм. Была такая:

*Мы пісалі — не драмалі,*
*Ды не сталі мы тузы,*
*А таму што памянялі*
*Мы майхры на матузы.*

Перад Матузавым дырэктарам быў Сцяпан Майхровіч, той з Міхасём Машарам і іншымі аўтарамі "вадзіў казу". Захар Пятровіч з пісьменнікамі мог выпіць хіба на афіцыйных юбілейных прыёмах, а так нікому ні разу не ўдалося спакусіць яго далучыцца да нашай багемнай кампаніі.

У сувязі з яго дзялёжкай ганарару, Анатоль Вялюгін выдаў злую эпіграму па-руску, "пад Лермантава".

*Одну лишь сотню он просил*
*И взор являл живую муку.*
*Но Матуз хрена положил*
*В его протянутую руку.*

(Я прыводжу той варыянт, які чытаўся жанчынам, быў мужчынскі, больш ёмкі).

Галоўным бухгалтарам выдавецтва быў Ісак Пеймер. З'явіўся каламбур:

*"Не хочешь ходить к Пеймеру —*
*Пей в меру".*

Успамінаю адзін ганарарны дзень, які мог бы скончыцца для некаторых творцаў трагічна. Я пісаў пра гэта, здаецца, ва ўспамінах пра Піліпа Пестрака. Але дзе тая публікацыя? Сам не помню, у якім выданні друкаваў. А ў начных сумна-вясёлых успамінах пра ганарар эпізод гэты высвечваецца асабліва яскрава.

Ганарарны дзень. У пакоях чацвёртага паверха – у рэдакцыях "Полымя", "Вожыка", якія былі клубамі, поўна творцаў – паэтаў, празаікаў, графікаў. Ідзе "конкурс" новых анекдотаў. Рогат сатрасае сцены. Перамагаюць, як заўсёды, Дзмітрый Кавалёў і Валянцін Ціхановіч, часам Андрэй Макаёнак, у вершаваных экспромтах – Анатоль Вялюгін. Антон Бялевіч змрочны, аблізвае засмяглыя вусны. Аблізваецца не адзін ён – шмат хто. Нехта паведамляе:

— Соня таранкі прывезла.

Соня – прадаўшчыца найбольшага "шалмана", яна ведае нашы ганарарныя дні і рыхтуецца да іх – запасае паэтычнае піцво (навінка "Крывавая Мэры") і экзатычную закусь: хто помніць пах і смак таранкі!

"Каравул" стаіць не толькі каля бухгалтэрыі, самага вялікага пакоя каля лесніцы, у тарцы будынка, але і ўнізе, каб своечасова даць сігнал аб прыездзе Гені-касіркі з банка. Разведчыкі яшчэ гадзіны тры назад выявілі, што касірка паехала не адна – з намеснікам дырэктара Раманам Дзегцяровым, які, не ў прыклад Матузаву, быў "нашым чалавекам", яго так і называлі "наш чалавек", бо ён быў нязменны ўдзельнік "ганарарных замочак". Тое, што "наш чалавек" паехаў у банк, узбадзёрыла, значыцца, сума такая, на якую спатрэбіўся памочнік і вартаўнік, хоць ніхто ў той час касіраў не рабаваў: пехатой, на трамваі прынасілі, прывазілі торбы чырвоных трыццатак.

Запыханы дазорны:

— Прыехалі!

Хутка, але паважна, без спрэчак – дзе каму стаяць, у калідоры выстройваецца доўгая чарга ледзьве не самлелых ад чакання і смагі талентаў.

Першыя ў чарзе заглядваюць у дзверы бухгалтэрыі, але Пеймер просіць пачакаць. І "наш чалавек" як бы арыштаваны бухгалтарамі, не выходзіць, каб даць сігнал: атрымоўвайце, хлопцы!

Доўга стаім. Урэшце выходзіць і ён, Раман, і Геня з тымі ж торбамі, такімі ж тоўстымі, як і ў банку. "Наш чалавек" вінавата махае чарзе рукой, сумна паведамляе:

— Грошай сёння не будзе.

— А калі будуць?

— Будуць.

— Чорт ведае што!

Раман і Геня спускаюцца па лесвіцы ўніз.

Асаблівага абурэння чарга не выказвае: гукнеш – сабе нашкодзіць. Больш цікавасці: куды павезлі наш ганарар? Назад у банк? Не бывае ж такога. Коласу? Залішне многа.

Тлумачыць Вялюгін – ён ведае ўсё!

— Цанаве.

З ім згаджаюцца. Колькі дзён назад на стале ў Матузава з'явіліся два тоўстыя тамы дакументаў партызанскага руху, складзеныя міністрам дзяржаўнай бяспекі Цанавай, яго ж і прадмова. Тыраж нечуваны – 30 тысяч. Калі кнігі былі яшчэ ў друкарні, некаторыя неасцярожныя супрацоўнікі шапталіся, што дагавор падпісаны не як са складальнікам – як з аўтарам, і тыраж вызначаны як мастацкай літаратуры – большы, чым палітычнай, (сціплы чалавек Цанава!) – пяць тысяч. Значыцца, ганарар за шэсць тыражоў!

Сума, якая ў пэўным сэнсе "азалаціла б" добрую паўсотню аўтараў, дастанецца аднаму беднаму Цанаве.

Чарга маўкліва разышлася. Хто не рабіў у рэдакцыях, сумна паплёўся дадому. Мы, працаўнікі выдавецтва, часопісаў, засталіся – чытаць карэктуры. Але нікто іх не чытаў. Сабраліся ў пакоі "Вожыка". Каментарыяў ніякіх. Толькі "беспрацоўны" Антон Бялевіч цяжка ўздыхаў, як апоены конь, ды вязень польскіх турмаў Пестрак, які за адзінаццаць гадоў зняволення тры прасядзеў у адзіночцы за свой бунтарскі характар, не звяртаючы на прысутных, размаўляў сам з сабой, не, не з сабой, з героямі "Сустрэнемся на барыкадах", рамана, які ён пісаў тады, з героямі сваімі мы ўсе размаўляем, калі застаёмся сам-насам, Пестрак жа гаварыў і ў кампаніях, нават часам у трамваі, здзіўляючы і палохаючы пасажыраў. Антон не мог пайсці дадому "сухім" яго смажыла пасля ўчарашняй замочкі кнігі Анатоля Астрэйкі.

— А ну, хлопцы, вытрасайце кішэні. Што ў каго ёсць. Да рубля. Я ж бачу, у гэтага кулачка Шамякіна кішэня не пустая.

Без грошай я не хадзіў. Нейкую малую суму заўсёды меў. Дастаў дзесятку. Андрэй – дзве ці тры – шчодры быў, нежанаты яшчэ. І другія выдаўцы нешта нашкраблі.

Антон адразу ажыў.

— Мора ж грошай! З такімі грашамі можам ехаць у рэстаран.

Сапраўды паехалі ў рэстаран, у "Беларусь". Гуляць дык гуляць! На злосць Цанаве!

Нас было сем ці восем чалавек. Кельнер паказаў нам сталы – два, якія мы ссунулі. На суседнім стале тут жа з'явілася картачка "Занято". Дзённы час, зала паўпустая, і афіцыянтка хутка прыняла заказ. Іншасказальна гутарылі пра прыгоды з грашамі, бо па дарозе яшчэ папярэдзілі адзін аднаго: пра Цанаву – ні слова, імя каб не вымаўлялася. Для цвярозых закон. А што будзе, калі прыплем сагравальнае? Трацяць хлопцы кантроль над языкамі сваімі.

А ён тут як тут – знаёмы наш па іншых бяседах нашых. Сеў за стол, дзе была таблічка "Занято". Яму заўсёды ўдавалася прыладзіцца побач з творчай кампаніяй, нават калі зала была перапоўненая. Мы звалі яго "Вуха", і даўно вынюшвалі ідэю, як яго напаіць. Не верылі, што ён цвярэзнік, хоць заказваў ён не рэстаранныя напіткі і закускі – піва, калі іх было двое, часам з'яўлялася на стале віно і гарачыя катлеты, самыя танныя. Шкада чалавека было. Пакутаваў, каўтаў слюнкі, гледзячы на нас: атрымаўшы ганарар, мы балявалі з купецкім размахам.

А каго "пасвіў"? Учарашніх франтавікоў, партызан? Размовы вяліся розныя: літаратура абагульняла ўсе праблемы жыцця: фронт і тыл, партызанскі рух і пасляваенная жыццё. Дагэтуль здзіўляюся, чаму Цанава не пасадзіў некаторых з нас – за развагі пра жыццё сучаснае – за тое, што мы адзінадушна выказвалі незадавальненне, як жывуць бацькі нашы ў калгасах, як ідзе калектывізацыя ў Заходняй Беларусі. Праўда, заходнікі найчасцей, пасля ганарару, ішлі сваёй кампаніяй і рэдка далучаліся да нашай "партызанскай брыгады". Акрамя Піліпа Пестрака: той заўсёды быў з намі, гаварун, тэарэтык, ён узбагачаў нас марксісцка-ленінскай філасофіяй. Нават нас з Андрэем, а мы ж год ці два назад скончылі партшколу. Падкаванымі марксістамі лічылі сябе.

Пасля другой ці трэцяй чаркі мы загудзелі, што разварушаны пчаліны рой. "Вуха" натапырыла вушы, хоць глядзеў агент у свой капусны салат. Ды мы яго натуру ведалі і яго метады падслухоўвання. І нехта, здаецца Алесь Рылько, які хмялеў раней за ўсіх, не вытрымаў – ударыў па балючай струне: вымавіў імя Цанавы. Здаецца, сказаў:

— Каб не Цанава, каньячок бы смакавалі. Абрадаваў ён нас...

І тут не вытрымаў Піліп, гнеўны бунтар, — гукнуў на поўны голас:

— Жу-у-лік!

Застылі мы на нейкі міг. Апусціў нос у талеркі "Вуха".

Як збіць яго з панталыку? Выйсце знайшоў Андрэй. Ён схапіў старога (для нас) Піліпа загрудкі, закрычаў:

— Гэта я жулік? Я? Франтавік? У мяне асколкі ў нагах сядзяць. Ды я цябе за жуліка!..

Ашаломлены Пестрак не адразу сцяміў, што да чаго і ледзьве не палез да Андрэя з кулакамі. Ды разумны партызанскі разведчык Валодзя Карпаў пачаў аддзіраць іх аднаго ад другога.

— Што вы як пеўні. Пасаромейцеся. Людзі глядзяць, — і вачамі паказаў на "Вуха".

Да былога падпольшчыка і вязня дайшло ўрэшце, хто пачуў яго выгук. Ён зміраўся:

— Ну, добра, добра. Прабач, — і тут жа зарагатаў і абняў Андрэя. – Пацалуемся – і забудзем.

Застолле задаволена зашумела: усталяваўся мір паміж людзьмі, няма сярод нас жулікаў – усе анёлы нябесныя.

А скончылася незвычайна: ранейшыя спробы далучыць "Вуха" да нашай кампаніі, былі безвыніковыя: капітан, як пасля мы даведаліся, скардзіўся на язву кішкі.

А на гэты раз Андрэю ўдалося (незвычайны талент меў сатырык!) пазнаёміцца з даўнейшым нашым знаёмым, перацягнуць яго за наш стол.

Мікола Татур у знаёмай афіцыянткі (прадстаўляў пляменніцай) пазычыў грошы. Мы заказалі каньяк і віно, непрыкметна рабілі "ярша" і накачалі капітана так, што ледзьве завезлі яго дадому. Таксіст, мабыць, ведаў, каго вязе і нават не ўзяў ні ў каго з нас пісьменніцкага пасведчання.

— Я веру вам. І ведаю, дзе вас знайсці. У Доме друку, так?

Таксіст на другі дзень атрымаў добрыя чаявыя. А вось чалавека з псеўданімам "Вуха" не бачылі доўга, можа, год. Але Анатоль Вялюгін умеў знаёміцца з усімі "цікавымі" людзьмі. Ды яшчэ Саша Міронаў меў такі талент. Яны ведалі ўсіх, хо выяўляў цікавасць да літаратуры. Яе, літаратуру, не толькі чыталі...

## ТРЫМАЙ ДЫСТАНЦЫЮ!

Быў час, была эпоха, — сказаў мудры Лысагорац, застаўшыся ананімным. Чаму? Над разгадкай б'юцца лепшыя даследчыкі літаратурнага працэсу той эпохі, калі з'яўляліся творы, што ўзбагачалі мастацкую думку народа.

Але я не намераны разгадваць загадкі. Не мой жанр. Пасля раманаў, аповесцяў мяне пацягнула на ўспамін. Не пацягнула – яны самі прыходзяць. Асаблівасць старасці? Настальгія па маладосці, бурнай і супярэчлівай? Напэўна. Забываецца нядаўняе, высвечваецца, як зенітным пражэктарам, маленства, юнацтва, маладосць, суровыя, ваенныя і пасляваенныя – галодныя гады, а ўрэшце незабыўнае шчасце творчасці, яе першых поспехаў. І радасць прыналежнасці да самай аўтарытэтнай творчай арганізацыі

(Заканчэнне на стар. 15)

## У эфіры — беларуская літаратура

Беларускае радыё рыхтуецца да новага вяшчальнага сезона, які пачнецца з 1-га лістапада. На мастацкім савеце разгледжаны і зацверджаны праекты, якія па задуме іх аўтараў павінны палепшыць якасць радыёперадач, адкрыць новыя тэмы, зрабіць эфір месцам цікавых сустрэч, прапаганды лепшых дасягненняў айчыннага прыгожага пісьменства.

Цікавасць слухачоў павінны выклікаць аўтарскія праграмы Навума Гальпяровіча, Галіны Шаблінскай, Святланы Шалімы, Маргарыты Прохар, Людмілы Рублеўскай, Васіля Макарэвіча, Святланы Дзевяткавай і іншых.

Значна пашырыцца арыгінальнае літаратурнае вяшчанне на канале "Культура". Але пра новы вяшчальны сезон больш падрабязна на старонках "ЛіМа" — у бліжэйшых нумарах, а сёння — пра тое, што чакае слухачоў на наступным тыдні. Нагадаем, што першы Нацыянальны канал можна слухаць па радыёсетцы і на хвалях 1075, 4,21 і 2,82 м, а канал "Культура" — на хвалях 343,6 і 4,26м, а таксама на хвалях, якія транслююцца перадатчыкамі і радыёвузламі абласцей.

Панядзелак пачнецца анонсамі ў "Радыёфакце" падзей, дат і імёнаў у рубрыцы "Кола часу". А гэта — 95 гадоў з дня нараджэння Рамана Сабаленкі, 90 гадоў з дня нараджэння Андрэя Ушакова і г.д.

Вечарам у **22.10** запрашаюць **"Музейныя тайны"**. У гэты ж час у аўторак — праграма **"Роднасць"** пазнаёміць з украінскай літаратурай, а ў сераду — аўтарская праграма Святланы Шалімы **"Белы аркуш"**, у чацвер Васіль Макарэвіч у перадачы "Да 120-годдзя Я. Купалы і Я. Коласа". У пятніцу **"Альфа і Амега"** знаёміць са скарбніцай сусветнай літаратуры, а ў "Радыёфакце" — аб тым, як у краіне ідзе святкаванне 120-годдзя песняроў — рубрыка **"Ад роднае зямлі, ад гоману бароў"**.

У нядзелю, у **15-30** — **"Літаратурны праспект"** знаёміць з навінамі літаратуры, з асноўнымі мерапрыемствамі, якія адбыліся ў Доме літаратара, у клубах, музеях, навучальных установах.

Канал "Культура" ў панядзелак запрашае ў **"Клуб дамаседаў"**, дзе ў 11 гадзін адбудзецца чытанне "Чорнага замка Альшанскага" У. Караткевіча, а з 16.00 — у праграме "З фондаў радыё" — спектакль па п'есе Я. Коласа "Рыбакова хата".

У аўторак — працяг чытання "Чорнага замка", а 14.00 — праграма Галіны Шаблінскай **"Гаспода"** — сустрэчы з пісьменнікамі, літаратуразнаўцамі, навінкі літаратуры. У 16.00 — "Паэтычны радыётэатр".

Тыя, хто любіць творчасць Аляксандра Блока, могуць паслухаць у надзелю, у 16.15 радыёкампазіцыю паводле паэмы "Дванаццаць".

**Н. К.**


## Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў

**аб'яўляе конкурс на замяшчэнне пасад прафесарска-выкладчыцкага складу:**

загадчыка кафедры кінатэлемастацтва;
загадчыка кафедры інтэр'ера і абсталявання.

Тэрмін падачы заяў — адзін месяц з дня апублікавання аб'явы. Заявы і дакументы, згодна ўмове аб конкурсах, падаць на імя рэктара акадэміі на адрас:

220012, г. Мінск, пр-т Ф. Скарыны, 81, аддзел кадраў, тэл. 232-77-34.

## Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі

**аб'яўляе конкурс на замяшчэнне пасад прафесарска-выкладчыцкага складу (для тых, хто мае мінскую прапіску):**

—кафедра спецыяльнага фартэпіяна
старшы выкладчык — 1;
— кафедра кампазіцыі
загадчык кафедры — 1;
—кафедра тэорыі музыкі
дацэнт — 1;
—кафедра беларускай музыкі
прафесар — 1;
—кафедра драўляных духавых інструментаў
прафесар — 0,25;
дацэнт — 0,5;
—кафедра моў
старшы выкладчык — 1;
—кафедра музычнай педагогікі, гісторыі і тэорыі выканальніцкага майстэрства
дацэнт — 1.

Тэрмін падачы заяў — адзін месяц з дня апублікавання. Заявы і дакументы накіроўваць на імя рэктара на адрас: 220030, г. Мінск, вул. Інтэрнацыянальная, 30. Даведкі па тэлефонах: 227-49-42; 226-06-70.




# ЦІ ХАДЗІЦЬ ДЗЕТКАМ АСТРОЎСКАГА ГЛЯДЗЕЦЬ?

***Па-сапраўднасці ніхто і ніколі не верыў ў смерць тэатральнага мастацтва. Тым больш "ад рук" тэлебачання. Нягледзячы на прыцягальныя экраны тэлевізараў і камп'ютэраў, людзі па-ранейшаму любяць тэатр. Часам, прабягаючы мімаходзь стракатых тэатральных афіш, выпадкова чуеш: "А ці варта ісці на гэты спектакль? Ці добры ён?" Вядома, тутэйшыя аматары тэатральнага мастацтва, хочуць ведаць, за што плацяць грошы: сумна змарнаваць вечар. Таму аддзел тэатра "ЛіМа" і вырашыў адкрыць новую рубрыку "Суб'ектыў". Своеасаблівую "будку суфлёра", з якой мы будзем падказваць усім аматарам тэатра, якія з беларускіх спектакляў варта паглядзець абавязкова, якія — мо толькі з цікаўнасці, а якія — ... і самі разумееце.***





**НАЦЫЯНАЛЬНЫ АКАДЭМІЧНЫ ТЭАТР ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ, ДЗЯРЖАЎНЫ МАЛАДЗЁЖНЫ ТЭАТР**

**Спектаклі: "Свае людзі — паладзім", "Позняе каханне"**

**Рэжысёры: У. Савіцкі , І. Малоў**
**Прэм'еры: май, снежань 2001 года**

На чарговым спектаклі паводле п'сы Астроўскага злавіў сябе на думцы, што пачынаю літаральна ненавідзець класічную рускую драматургію. Як марудна, сумна, нецікава стаяць у нас Астроўскага! З яго боку не паглядзіш на сцэну, усюды заўважна, што спектаклям бракуе рэжысёрскай выдумкі, сцэнаграфічнай вынаходлівасці,



# ВЯРТАННЕ ДАМОЎ

***"Рамантычная загадка беларускай культуры". Гэта назва артыкула Міколы КУПАВЫ ў часопісе "Наша вера" (1(7) 1999) пра Аршанскі замак і іншыя святыні аршанскай зямлі з асабліва кранальнай гісторыяй пра "жыццё і смерць" храма Апекі Маці Божай, які аўтар называе "Аршанскім Notre-Dame".***

У пэўнай ступені такой "рамантычнай загадкай" паўстаў вобраз мастака Міколы Купавы перад наведвальнікамі першай персанальнай выставы мастака ў родным горадзе —Оршы.

У мастацкіх выставах Купава бярэ ўдзел з 1972 года, творы яго захоўваюцца ў многіх музеях Беларусі і прыватных зборах замежжа, а вось выстава "на радзіме малой", дзе некалі было роднае гняздо Міколы Купавы, "дзе Аршыца ўпадае ў Дняпро", — упершыню, што, вядома, трошкі дзіўна.

Безумоўна, усе гэтыя гады мара пра такую сустрэчу з землякамі жыла ў падсвядомасці мастака, хвалявала, нараджала творчыя ідэі, звязаныя з гісторыяй Аршаншчыны, таму запрашэнне правесці сваю персанальную выставу ў Аршанскай гарадской выставачнай зале не было нечаканасцю, а падрыхтоўка да выставы сталася вельмі сур'ёзнай.

"Усе шляхі прыводзяць не да Рыма, а да родных сосен і бяроз", — з гонарам сцвярджалі выступоўцы-аршанцы падчас адкрыцця выставы 14 чэрвеня свайго слыннага земляка Уладзіміра Караткевіча, акцэнтуючы ўвагу на трапнай назве выставы — "Вяртанне дамоў", што, як зазначыла дарадца старшыні гарвыканкама Валянціна Сіднякова, "так абнадзейвае".

Паказаць усё, здзейсненае за больш чым тры дзесяцігоддзі, немагчыма ні на адной выставе.

Што рабіць?

Вызначыць асноўныя тэмы.

Як гэта зрабіць, якімі працамі прадставіць — пра гэты клопат расказаць можа толькі сам мастак.

Мяне, як аднаго з першых наведвальнікаў выставы, зачаравала ўсё: ад незвычайна паэтычнага прозвішча мастака — Купава (між іншым, усе спачатку прымаюць яго за псеўданім) — да ўражваюча рознапланавай тэматыкі і творчых інтарэсаў мастака.

Спынюся спачатку на трох творах, розных па часе, манеры выканання, але на ўсіх трох — Асобы, якія так ці інакш ствараюць вобраз часу і прыхільнасці мастака. Першы — акварэльны аўтапартрэт мастака (1974 г.). Мастак намаляваў сябе ў кашулі-вышыванцы ды сапамяным капелюшы. І ганарліва ўзнятай галаве...

Другі — Вялікі князь Вітаўт (выява скарыстана ў афармленні насценнага календара 2000—2001 гг.).

Мапады Скарыніч — трэці вобраз, які ўразіў мяне, адна з найноўшых прац мастака з ілюстрацый да кнігі Сяргея Тарасава "Фрэскі". Юны Францыск Скарына... Пагляд гэтых вачэй спыняе і насцярожвае.

Гэтаму бацька і не сказаў бы: "Ты будзеш, будзеш у мяне купцом!" Не будзе, пойдзе сваёй дарогай, і не верыцца, што скончыцца яна ў карапеўскім батанічным садзе... Ізноў загадка? Можа, нас яшчэ чакаюць разгадкі, звязаныя з невядомымі старонкамі жыцця і дзейнасці Скарыны?

Творчасць Купавы правакуе пытанне: як жыць нам, каму баліць душа за культурную спадчыну?

А колькі пачуццяў, роздуму, вострага жадання спазнаць сапраўдны лёс гэтых людзей выклікаюць партрэты маці (1965) і бацькі (1974)!

Шмат цёплых, шчырых і нават узнёслых прамоў прагучала падчас адкрыцця выставы. Зразумела, што аршанцы ганарацца сваім земляком. Яны ўдзячны мастаку і за ўзноўлены герб Оршы, які, дарэчы, шмат дзе ў горадзе можна ўбачыць, і за даследчую працу аршанскіх помнікаў гісторыі і культуры, і за ўсе яго творы, і за тое (цытую загадчыка Музея гісторыі і культуры Оршы Віктара Лютынскага), што "тут, у Воршы, ягонае сэрца".

Сябар Міколы, вядомы беларускі мастак Алесь Марачкін зазначыў, што гэтая выстава — вялікая культурная з'ява ў горадзе і ў краіне.

Адданае служэнне Бацькаўшчыне выяўленне ў творчасці мастака і яго грамадскім жыцці, духоўнасць мастака — асобы зазначыў калега Купавы мастак Ягор Батальёнак. Вылучаючы, як вельмі ўдалы, трыпціх "За волю, роўнасць, незалежнасць", дзе спалучаюцца, па яго меркаванні, высокая ідэя, уменне намаляваць з лірычным рамантызмам, Ягор Батальёнак асабліва захапленне выказаў наконт высокага ўзроўню акварэльных прац.

Купаву заўсёды вабіла акварэль. Але іншым тэхнікам ён таксама надаваў увагу. Цяжка паверыць, што ўсё гэта зроблена адной рукой: лінарыт, каляровая літаграфія і акварэльны жывапіс.

Трыпціх "За волю, роўнасць, незалежнасць!" (прысвячэнне А. Т. Касцюшку), узгаданы раней, адзін з самых значных твораў мастака. Гэта яго улюбёная тэма — народнае паўстанне. Тэма, якая неадноўчы ўздымаецца майстрам у ягонай творчасці, тут вырашаецца па-нова-

акцёрскага імпэту. Рэпертуарныя тэатры сталіцы баяцца любога сцэнічнага эксперымента (ну чаму не перанесці дзеянне п'есы Астроўскага ў наш час?). Неардынарнае прачытанне п'есы, вобразнае пераасэнсаванне тэксту заменяецца на сцэне маруднымі побытавымі пастаноўкамі.

У любым выпадку класічныя творы можна ставіць з неверагоднай прэтэнзіяй на арыгінальнасць. Прынамсі, мова тэатра гэта дазваляе. Для прыкладу згадаю пра аднадзённыя гастролі ў Мінску Малога тэатра з Вільні, калі ў гонар Дня ўзнаўлення літоўскай незалежнасці яго акцёры разыгралі паэтычную драму "Баль-маскарад" паводле Лермантава. Памятаю, з Купалаўскай сцэны ззяў мацнейшы прамень вынаходлівай рэжысуры Рымаса Тумінаса. (Кажуць, што пасля паказу гэтага спектакля ў Варшаве, славутая польская актрыса Беата Тышкевіч прызналася, што мусіць падаваць каву такому рэжысёру.) І гэты прамень раз і назаўсёды высвятліў як павінна ставіцца класічная драматургія ўвогуле. Што такога незабыўнага паказаў Р. Тумінас? А тое, што нашае жыццё – слізкі лёд, на якім і віруе той баль-маскарад. На ім кожны чалавек падпарадкаваны бязглуздай волі лёсу (на працягу спектакля камічны гурт акцёраў слепма крочыць за адным чалавекам, які трымае ў руцэ званочак). І не трэба пераказваць сюжэт п'есы, можна проста выкаціць на сцэну невялікі снежны камяк, які з кожнай хвілінай будзе рабіцца большым за папярэдні (метафара хуткай раскруткі падзей у п'есе)...

Нашы спектаклі паводле Астроўскага, якія з'явіліся ў розных тэатрах у адзін год, уяўляюць сабой класічны пераказ п'ес. Лянівыя школьнікі могуць прыйсці ў тэатр, каб прачытаць Астроўскага ў "карцінках". Сцэны з жыцця глухамані (у купалаўцаў -- яны трагікамічныя) напоўнены і тонкай гітарнай музыкай, і завадной цыганачкай, і водарам гарэлачкі – самымі звычайнымі дэталямі з жыцця рускіх мяшчан. Сцэнаграфія не ідзе далей умоўнага хатняга пакоя з крэсламі, канапамі і сталамі – "мёртвым" рэквізітам, які ніяк не абыгрываецца акцёрамі.

Адна з першых п'ес Астроўскага "Свае людзі – паладзім" прысвечана асабліва моднай цяпер тэме грошай. Купалаўскі рэжысёр У. Савіцкі і мастак В. Цімафееў спрабуюць "раскруціць" як быццам персанажа "з нашага часу" (Пасля "Вечнага Фамы" паводле Дастаеўскага дзеянне спектакля зноў адбываецца на сцэнічным крузе. Праўда, раней, гэты круг добра падкрэсліваў ідэю, што пад сонцам няма нічога новага і балбатун Фама Фаміч Апіскін сустракаецца і ў нашым жыцці.) Чалавека, які будзе вам ласкава ўсміхацца, а сам трымаць ў кішэні магутную дулю. Менавіта такім чынам неадукаваны прыказчык Падхалюзін (А. Лабуш) зрабіўся ўладальнікам усяго багацця (нават дачкі) заможнага купца Бальшова (У. Рагаўцоў). У любы нахабны час на кожнага круцяля знойдзецца яшчэ лепшы круцель.

П'еса "Позняе каханне" прысвячаецца тэме "гарачага сэрца". І. Малоў у Маладзёжным ставіць спектакль у гонар дабрачыннасці. Калі У. Савіцкі мае справу з персанажамі-ваўкамі, то І. Малоў – з авечкамі (а дакладней – авечкай). Тут на авансцэну дзеяння выходзіць Людміла Маргарытава (С. Гусарава) -- бледная, малавыразная, стомленая жанчына, якая ўсе маладыя гады аддала справам свайго бацькі. Яе палкае "позняе каханне" да бясклапотнага іграка і п'яніцы Мікалая (І. Фільчанкоў) напаўняе прастору сцэны цёплынёй, пяшчотай, шчырай усмешкай... Калі ў спектаклі "Свае людзі – паладзім" дачка Бальшова Ліпачка кідае бацькоў з-за грошай, то Л. Маргарытава – толькі з добрых памкненняў: каб выратаваць ад турмы прайдзісвета Мікалая, якому ці патрэбна гэтае каханне ўвогуле...

Некалі наконт п'есы "Свае людзі – паладзім" Астроўскі пісаў: "Няхай лепш рускі чалавек радуецца, убачыўшы сябе на сцэне, чым сумуе..." Але, як тут, паважаны спадар Астроўскі, не засумаваць! Малавыразныя акцёрскія работы, сціплыя выяўленчыя сродкі перашкаджаюць убачыць, як у люстэрку, свае недахопы. Хаця, пачакайце! Пастаноўку У. Савіцкага якраз выратоўвае выхад на сцэну страпчага суда Рыспалажэнскага, якога цудоўна іграе Г. Гарбук. Сочыш за яго імправізаванымі заляцаннямі з публікай і забываеш пра навязлівую думку: ну навошта цяпер пад ногі героям падаюць, як тое апалае лісце, папяровыя грошы?! Ну навошта, калі многім у зале іх даўно не плацяць?!

**Д. ТАЯНОЎСКІ**

**— толькі з цікаўнасці**

**— не прапусціце!**

**— шэдэўр**

*НА ЗДЫМКАХ: сцэны са спектакляў "Свае людзі – паладзім", "Позняе каханне"*

***Фота М. ПРУПАСА***



му, у першую чаргу, абраўшы новую форму, новы стыль выяўлення, новыя вобразы.

Гэта трэба бачыць, "каб лекаваць людзей", як зазначыў адзін з наведвальнікаў выставы, па прафесіі — урач.

Карціна "Руіны Гальшанскага замка" ўзрушыла нават трохгадовага Хведарку, які, седзячы на руках у зусім яшчэ маладога таты, амаль хлапчука, і размахваючы старажытным нацыянальным сцяжком, запытваўся, хто разбурыў замак...

І яшчэ раз хачу вярнуцца да прадстаўленых Міколам на выставе новых ілюстрацый да кнігі С. Тарасава "Фрэскі". Праца была яшчэ не скончана, але мастак палічыў магчымым пазнаёміць гледача з ёю і ў такім выглядзе. Гэта кніга нарысаў і апавяданняў з гісторыі Полацкага княства і Вялікага Княства Літоўскага. Дастаткова проста назваць герояў гэтай кнігі: Усяслаў Чарадзей, Еўфрасіння Полацкая, Кірыла Тураўскі, Андрэй Полацкі, Вітаўт Вялікі, юны Францыск Скарыніч. Адчуваецца, што мастак глыбока прачытаў гісторыі і стварыў надзвычай прывабныя вобразы. Упэўнена, што праз нейкі час гэта праца стане галоўнай у мастака і ўжо па ёй будуць меркаваць пра Міколу Купаву.

Хачу скончыць свой аповед пра мастака словамі выдатнага Ніла Гілевіча, якія ён сказаў на адкрыцці юбілейнай выставы Міколы Купавы ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі ў 1996 годзе "Як прыемна быць на гэтай выставе і бачыць столькі беларускіх герояў, нашу гісторыю, нашы краявіды і, галоўнае, што ўся творчасць Міколы — беларуская. Гэта суцэльна наша Беларусь".

Сапраўды, высокі дух беларускасці ўласцівы ўсім працам Міколы Купавы. І гэтая асноўная якасць творчасці мастака асабліва каштоўная для нашай культуры ў цэлым сёння, калі мы сцвярджаем сваю існасць, непаўторнасць беларускага этнасу, культурныя здабыткі нашай дзяржавы.

**Марыя ФЛОРА**

**ФІЛЬМАПІС**

# ЗАКАХАНЫЯ З МАНМАРТРА

**Французскі фільм "Амелі" Ж-П. Жэнэ ды амерыканская стужка "Мулен Руж" Б. Лурмана ужо шмат месяцаў ідуць у нашых кінатэатрах. Рознастылёвыя, непадобныя па настроі карціны між іншым аб'ядноўвае адно месца дзеяння — Парыж, Манмартр...**

**Камедыя "Амелі" (ці "Амелі з Манмартра") лічыцца лепшым французскім фільмам мінулага года. Добрая, лірычная кінастужка, поўная тонкага (а часам, "чорнага") гумару, вучыць любіць жыццё, атрымліваць асалоду ад кожнага пражытага імгнення. У сваім фільме рэжысёр Ж-П. Жэнэ, вядомы гледачам па стужках "Дэлікатэсы", "Чужы-4", падзяляе рамантычны, узнёслы Парыж на два нябачныя вымярэнні: вымярэнне выдумляк і абывацеляў. Маладая афіцыянтка Амелі Пулен (Одры Тату) з дзяцінства жыве ў казачным свеце незвычайных фантазій (абстаноўка ў яе бацькоўскім доме была настолькі невыноснай, што нават залатая рыбка ў акварыуме пыталася некалькі разоў скончыць жыццё самагубствам). Гледзячы на наваколле вачыма галоўнай гераіні фільма, бачыш у небе не аблокі, а жывёлаў; не ручай ці возера, а — патэльню, на якой можна пекчы вадзяныя блінчыкі. Выдумляка Амелі, пяшчотная, танюткая дзяўчына з неверагодна ласкавымі вачамі, бязлітасна ўрываецца ў нудотнае жыццё абывацеляў. Яна з радасцю здзіўляе людзей, робіць ім дабро. (Чарадзейная місія Амелі пачалася з таго моманту, калі яна знайшла няхітры скарб хлопчыка, схаваны ім сорак гадоў таму. Нагадаўшы пра яго пасівеламу "гаспадару", дзяўчына неўспадзеўкі робіць жыццё чалавека цікавей.) Вынаходлівыя хітрыкі Амелі заахвочваюць вандраваць па свеце яе пустэльніка-бацьку; паверыць у каханне суседку, якую даўно кінуў муж; дапамагаюць зблізіць адзінокіх людзей. А тым абывацелям, якія насміхаюцца з цуда жыцця, Амелі з фантазіяй помсціць.**

**Незвычайнымі, экстравагантнымі ўчынкамі дзяўчына заінтрыгоўвае і любага Ніна (Мацье Касавіц). (Дарэчы, Амелі — не адзіная выдумляка ў фільме. Дзівакамі з'яўляюцца і яе сусед-мастак, які штогод робіць копію з адзінай карціны Рэнуара, і прадавец агародніны, закаханы ў арцішокі, і Ніна, які збірае ў альбом разарваныя людзьмі ўласныя фотаздымкі.) І каханне, аздобленае фантазіяй Амелі, прыносіць сапраўдную асалоду юнакам. У выдумляк яно не будзе часткай будзённасці...**

**У фільма Ж-П. Жэнэ ёсць свой, асаблівы настрой, створаны меланхалічным дуэтам акардэона і фартэп'яна (кампазітар Я. Цірсьен). Дынамічны мантаж з бясконцымі ўстаўкамі ў кінааповед імгненных успамінаў, мараў герояў робіць стужку несумным, цікавым відовішчам. Таксама з задавальненнем назіраеш за ігрой, мімікай актрысы О. Тату. (Таму, калі не паспелі паглядзець карціну ў кінатэатрах, шукайце яе на ліцэнзійных відэакасетах.) Калі чалавек захоча, яго жыццё можа быць цудоўным, -- сцвярджаюць стваральнікі фільма. Вось чаму пасля прагляду "Амелі" робіцца лягчэй на душы.**

**Чаго зусім не адчуваеш пасля знаёмства з музычнай стужкай "Мулен Руж", якую рэжысёр Б. Лурман стварыў нібыта ў дзіцячым пакоі, поўным разнастайных, бязглуздых цацак. З гэтай прычыны яго Парыж канца XIX стагоддзя здаецца кардонным і штучным. А ўсё, што адбываецца ў багемным начным клубе "Мулен Руж" на Манмартры, -- дзіўнай фантасмагорыяй. Бо вакханалія колеру, хутая змена кадраў, ракурсаў, незвычайны калаж з рэчаў і чалавечых абліччаў, мікс са шлягераў розных гадоў мінулага стагоддзя робяць мастацкую карціну адным зацягнутым да неверагоднасці эмтывішным кліпам (музыка Э. Джона, Д. Боуі)...**

**Але чаму "Мулен Руж" так спадабаўся амерыканскім кінаакадэмікам (восем намінацый на прэмію "Оскар")! Насамрэч Б. Лурман далёка не такі безгустоўны рэжысёр, як можа падацца спачатку. А можа, той маскарад, які штовечар віруе ў "Мулен Ружы" — гэта пародыя на амерыканскае грамадства, і ўвогулле -- на жыццё?! Ну што можа ведаць пра багемнае жыццё Парыжа канца XIX стагоддзя самы дасведчаны амерыканец-абывацель! Ну, нешта пра канкан, нешта пра абсент, нешта пра кульгавага мастака Тулуз-Латрэка, якога натхнялі танцоўшчыцы "Мулен Ружа". Таму ў адной кінематаграфічнай прасторы Лурман з гумарам і падтэкстам змешвае культурніцкія "фішкі" розных стагоддзяў, ствараючы на экране сапраўдныя гратэскныя вобразы, вартыя жывапісу Тулуз-Латрэка.**

**Сентыментальны сюжэт стужкі дасылае гледача да нямых галівудскіх фільмаў. Бо адчуць трагедыю беднага пісьменніка Хрысціяна (Эван Мак Грэгар), які закахаўся ў прыгажуню-куртызанку Сацін (Ніколь Кідман), хворую на сухоты, можа толькі наіўны рамантык тых часоў. Але рэжысёр вымушае спачуваць сваім замілавальным героям, якія не могуць быць разам (каб з'явілася новае прадстаўленне ў "Мулен Ружы", Сацін павінна упадабаць багатага фундатара, а не таленавітага пісьменніка). Але бедныя закаханыя ўпэўнены, што "самае найвялікшае ў свеце — гэта кахаць і быць каханым" (фраза-лейтматыў фільма). І нягледзячы ні на што, застаюцца вернымі адзін аднаму. У бясконцым маскарадзе-пустазеллі, якім з'яўляецца начны клуб "Мулен Руж" і жыццё ўвогулле, прарастае жывое, шчырае пачуццё. Б. Лурман з асалодаю зрывае маскі з размаляваных танцоўшчыц і клоўнаў — з усіх бясклапотных**





**заўсёднікаў "Мулен Ружа", з усіх марнатраўцаў жыцця...**

**Абодва фільмы вучаць гледача, што жыццё можа быць цудоўным і незабыўным, калі ў ім ёсць месца для фантазіі і шчырага пачуцця, якія ўпрыгожваюць свет. Ах, Парыж! Ах, Манмартр!..**

**В. БАРАБАНШЧЫКАВА**

*НА ЗДЫМКАХ: кадры з кінафільмаў "Амелі" і "Мулен Руж"*

# УСПОМНІЦЬ ПАЭТА

**Івану КАЛЕСНІКУ — 70 гадоў**

Ён не дажыў і да сарака пяці. Найчасцей у такім узросце паэты сыходзяць успаўленымі і здзейсненымі...

У яго ж быў звычайны лёс тагачаснага савецкага грамадзяніна: нарадзіўся пад страхой, вучыўся як мог, рос на вайне, давучваўся ў горадзе, працаваў, выдаваў, гадаваў, пісаў для вечнасці, сканаў...

І гэта ўвесь чалавек?! І ад яго яшчэ й нам нешта засталося?!

Я не ведаў яго. І да ўчарашняга дня, шчыра прызнаюся, мала што й чытаў. Пытаўся ў сваіх калегаў — пацепваюць плячыма: хто такі? "Чалавек, — кажу, — і паэт, памёр ужо..." Не, не ведаюць, не помняць...



То ці пісаў ён для вечнасці?

Ну, як жа, пяць кніжак вершаў пры жыцці выдаў, якраз і ў цябе столькі... Дарэчы, а сам ты пісаў для вечнасці? Ці толькі думаў, што пішаш?

За што ж ты караеш нас, Апалон, на самым зломе бессмяротнай страфы?!

Хоць адным вершам, але дай Паэту апраўдаць прызванне сваё...

### ДАРОГАЙ ДАДОМУ

*О красавіцкі дух цвярозы!*
*Рыпіць вільготны жвір-пясок,*
*Мінаю грэблю і масток.*
*Маўчаць бязлістыя бярозы.*

*А ў небе хмарка — ветразь-лодка,*
*І позірк песціць сіньва.*
*У наступ рушыла трава, —*
*Якая лёгкая паходка!..*

*Прыходзіш сэрцам да высновы,*
*Што ўсё-ткі светлае жыццё.*
*Хоць побач крочыць небыццё*
*У гэты дзіўны дзень вясновы...*

І што яшчэ скажаш на перахопленым дыханні?..
Давайце ўспамінаць адзін аднаго.

**ЛеГал**

# ЖЫВЕ БІБЛІЯТЭЧНАЯ СПРАВА

Нягледзячы на цяжкія фінансавыя ўмовы, на Брэстчыне не затухае бібліятэчная справа, а набірае новыя сілы.

Як паведаміла ў час свята бібліятэчных работнікаў дырэктар абласной бібліятэкі імя Горкага Тамара Муха, у Брэсцкай вобласці зараз працуе пладатворна 797 бібліятэк Міністэства культуры, а ў іх шчыруе паўтары тысячы работнікаў, якія праводзяць вялікую і карысную работу з чытачамі. А 613 тысяч аматараў кнігі карыстаюцца іх паслугамі. Гэтае сведчанне высокай культуры насельніцтва Брэстчыны.

**Анатоль ХАРЛАМАЎ**



# «Панура і горда дрэвы маўчалі»

***Адзін з украінскіх крытыкаў пра паэзію Атэны Пашко сказаў: "Гэта крык набалелай душы... гэта згустак думак і пачуццяў, якія пашыраюцца ў часе і прасторы".***

***Паэзія Пашко — гэта пратэст супраць фашызму ва ўсіх яго праявах, гэта аповеды пра лёсы людскія, зламаныя таталітарным рэжымам. Шмат вершаў паэтэса прысвяціла свайму мужу Вячаславу Чарнавілу, вядомаму грамадскаму і палітычнаму дзеячу, былому палітвязню (нядаўна загінуў у аўтамабільнай катастрофе) і праўдалюбцу, маладому вучонаму і паэту Васілю Стусу, які памёр у няволі ў 1985 годзе пры загадкавых абставінах.***

***Упершыню вершы Атэны Пашко прагучалі на беларускай мове ў газеце "Літаратура і мастацтва" ў 1995 годзе, пасля ў газеце "Наша слова", часопісе "Першацвет". "ЛіМ" зноў прапануе чытачам нізку вершаў таленавітай украінскай паэтэсы з яе зборніка "Верую" (1995 г.) у перакладзе Алены КОБЕЦ-ФІЛІМОНАВАЙ, якой 13 кастрычніка спаўняецца 70 гадоў. Віншуючы Алену Рыгораўну з юбілеем, жадаем ёй і надалей творчага неспакою, здароўя і плёну на ніве беларушчыны.***



Алена КОБЕЦ-ФІЛІМОНАВА

Атэна ПАШКО

●

*Свет*
*на далонях*
*лёсам сатканы*
*барозны ўразаліся*
*ніткамі тонкімі*
*знакамі-ўзорамі*
*сталі крылатымі*
*..................................*
*На вокнах цені*
*ляглі квадратамі*

●

*Не стала нашай прыстані...*
*Прапала маленькая святыня.*
*Няма храма.*
*Няма дома.*
*Вятры... Вятры... Холадна...*
*Прытухла сонца ў тваіх вачах...*
*Арган. Толькі арган*
*з нашага храма*
*на вятрах.*
*Толькі арган з нашага храма*
*ў гарах...*
*Толькі арган з нашага храма*
*ў хмарах...*
*А мы... Дзе мы?*
*На разбітых караблях.*
*Хваля то адкіне, то яднае...*
*Не паспяваеш зазірнуць у сябе.*
*Не паспяваеш азарыць ад сябе...*
*Хоць бы не разгубіцца,*
*Хоць бы не здрабніцца.*
*Хоць бы не адплысці*
*ад сябе далёка.*
*Ты не чакаеш мяне*
*ў нашым даму,*
*Я не імкнуся ўжо*
*да нашага дома.*
*Нашага дома,*
*Нашага храма няма.*
*Няма куды вяртацца,*
*Няма дзе гаварыць з Богам.*
*З нашым Богам.*

●

*Ты разумееш —*
*гэта зямля мая.*
*Не толькі таму,*
*што ў ёй мой бацька й сын.*
*Я чую покліч,*
*як на зарніцы званы.*
*Ты разумееш —*
*чую адтуль.*

*Я з іх.*
*Я з тых,*
*што там ляглі даўно,*
*Што ім зямля накрыла вочы,*
*Я з тых.*
*Мне ўсё ад іх аддана*
*Другой быць не хачу,*
*другой не стану.*

*Я свет адзін —*
*і светы два ўва мне:*
*Гэты,*
*што п'е лістотай*
*звонкае праменне,*
*І той, з якога прарасла карэннем.*
*Таму мяне няма адной.*

●

*Я была на канцэрце ночы.*
*Вятры-скрыпачы*
*Гралі на струнах таполяў.*
*На струнах бязлістых таполяў*
*І ліп.*
*І ўторыў ім дождж*
*На клавішах вокан маіх.*
*Рэквіем...*

●

*Добрага ранку, мілы,*
*добрага табе ранку.*
*(Дождж стукае, стукае*
*ў шыбіны.*
*Імжа).*
*Там акенца тваё*
*зоркаю міргае.*
*Паплылі, паплылі*
*чаўны пакут па белай слаце,*
*ударыліся ў вокны твае,*
*адгукнуліся*
*кроплямі*
*ў праменьчыках зоркі.*
*Прыгарнуліся —*
*Замерлі.*

●

*Дзеці*
*Сядзяць на ганку*
*Дваццаць першага*
*стагоддзя*
*Гойдаюць нажанятамі*
*прастору*
*Над безданню*
*нябачнасці*
*Абапіраюцца на падмурак*
*Расхістаны*
*мураванай*
*Злосцю.*

●

*Перазвонам*
*перагромам*
*разнеслася ў лесе*
*занямела*
*Нарадзілася зярнятка*
*ў падлессі...*
*Вожык на іголцы*
*сунічку нясе...*
*Упалі росы*
*То ад шчасця*
*моўчкі плача лес.*

●

*Уплялося павуціння*
*бабінага лета*
*шызым серпікам у блакіт*
*упала*
*парошаю адчаю*
*скацілася слязою*
*на змерзлы і востры*
*чарэшневы лістапад.*

●

**С...і**

*Намалюй, мастак,*
*цвінтар за тым дротам...*
*(Смерць туды заходзіць*
*без пропуска*
*На сваё свавольнае спатканне).*
*Намалюй*
*магілкі,*
*магілкі,*
*магілкі,*
*З пяску насыпаныя.*
*Шэрым,*
*бурым,*
*бронзавым*
*колерам.*
*Тыя, што былі і знесла іх,*
*Тыя, што свежыя яшчэ,*
*Тыя...*
*Годзе!*
*Пясок.*
*Пясок слізкі, як вужака.*
*Паўзе, распаўзаецца,*
*ссунеш — рассоўваецца.*
*Злы пясок.*
*Слупом*
*устае ў завіруху —*
*шэрым,*
*бурым,*
*бронзавым —*
*І засыпае вочы,*
*Сушыць горла.*
*Паўзе,*
*Не можа нарадзіць травінкі —*
*не можа быць магілаю.*
*Ногі грузнуць,*
*Зубы сцятыя.*
*Вочы, рукі шукаюць нумар,*
*Нумар магілы,*
*Нумар... чалавека,*
*што стаў нумарам.*
*Сорам*
*перад зямлёю сваёю,*
*Яна не ўцяміць.*
*Як расказаць ёй*
*Пра магілкі з пяскоў,*
*што паўзуць да яе*
*з чужыны.*
*Пра нумары...*
*Не зразумее.*
*Намалюй.*

**Пераклад з украінскай Алены КОБЕЦ-ФІЛІМОНАВАЙ**

# СЦВЯРДЖЭННЕ СВАЙГО ГІСТАРЫЧНАГА ПРАВА

**Саамі як народ на тэрыторыі Расіі (на Кольскім паўвостраве) зусім маралікі — каля 1,9 тысячы чалавек. У суседніх краінах іх шматкрат болей: у Фінляндыі — 5 тысяч, у Нарвегіі — 30 тысяч, у Швецыі — 15 тысяч.**

Вучоныя лічаць: саамі — нашчадкі старажытнейшага насельніцтва Паўночнай Еўропы. Бытуе і іншая думка: аб перасяленні саамаў з Усходу. Асноўныя заняткі народа: паляўніцтва, рыбалоўства. З 16—17 стагоддзяў развіваюць аленеводства.

Што ж да мовы, пісьменнасці, то вядома, што саамскі алфавіт існуе болей як 400 гадоў. Калі гаварыць пра савецкі час, то ў 1933 годзе быў выдадзены саамскі буквар Захарыя Чарнякова. Што цікава, лексіка расійскіх саамаў і іх скандынаўскіх братоў аднародная толькі на 50 працэнтаў. Значыць: для насельніцтва ў 1,9 тысячы чалавек клопаты на ніве прыгожага пісьменства амаль цалкам з'яўляюцца ўласнымі, арыгінальнымі.

Але нядоўгім было шэсце савецкіх саамаў да ўласнай літаратуры. На доўгі час тлустую чырвоную, крывавую кропку паставіў год 1937... І гэта тады, калі з'явіўся яшчэ адзін буквар — А. Эндзюкоўскага на кірыліцы. Кірыліца была болей зразумелая саамам, якія актыўна пачалі вывучаць рускую мову. Але далей самога выдання новага буквара справа не пайшла. У Лапландыю (родная старонка саамі) прыйшла хваля рэпрэсій. Сфабрыкавалі і беларусам зразумелую "справу пра саамскіх нацыяналістаў". Вывучэнне саамскай мовы ў сувязі з гэтым забаранілі.

Забараняглі і размаўляць па-саамску. Канешне ж, дыктат над народам малалікім учыніць прасцей. Амаль да пачатку 1970-х гадоў сітуацыю і не спрабавалі змяніць. Праўда, у 1954 годзе (год невыпадковы: у 1953 пайшоў з жыцця вялікі "мовазнаўца" таварыш Сталін) з навуковай экспедыцыяй на Поўнач прыязджае Г. Керт. Быў сабраны вялікі матэрыял па саамскіх дыялектах. У 1961 годзе пабачыў свет зборнік "Узоры саамскай мовы, матэрыялы па фальклоры саамаў Кольскага паўвострава, кільдзінскі і йокаганскі дыялекты". А ў гэты ж прыблізна час у інстытуце народаў Поўначы імя Герцэна ў Ленінградзе вучацца Акцябрына Воранава, Аскольд Бажанаў (яны і стануць першымі саамскімі паэтамі) і Аляксандра Антонава. Іх заахвоцілі да работы над саамскай мовай. Далучыліся да гэтай групы і іншыя. Справа спакваля пачала рухацца. 1977 год адзначаны як пачатак выкладання ў школе — інтэрнаце ў Лавозеры вуснай саамскай мовы. Настаўнікі — А. Антонава і Е. Коркіна. У 1979 годзе ўпершыню "Ловозерская правда" друкуе тры першыя вершы саамскай паэтэсы Акцябрыны Воранавай (між іншым, некалькі яе твораў перакладзены на беларускую мову Рыгорам Барадуліным).

У 1980 годзе выходзіць буквар на саамскай мове. Аўтар — А. Антонава. У 1982 годзе — кніга вершаў саамскага паэта Аскольда Бажанава "Сонца над тундрай". У 1983 годзе ў радыёэфіры выходзіць першая перадача па-саамску. У 1989 годзе ў Лавазёрску праходзіць вечар у гонар 55-годдзя і прыняцця ў Саюз пісьменнікаў СССР першай саамскай паэтэсы Акцябрыны Воранавай (толькі ў 1990, ужо пасля смерці Воранавай, пабачыць свет яе першая кніга). Выходзяць вершаваныя кнігі для дзяцей на саамскай мове — кнігі Эльвіры Галкінай, Кацярыны Коркінай, Іраіды Вінаградавай. Аляксандра Антонава працуе над перакладам дзіцячай біблії — "Ісус — сябра дзяцей".

...Надзея Бальшакова, саамка, якая піша па-руску, піша пра фальклор, культуру свайго народа, прыязджала да нас у Беларусь у складзе групы мурманскіх пісьменнікаў. Пазнаёмілася з Мінскам, пабывала ў "Іслачы". У мяне засталася кніга Надзеі Бальшаковай "Падарунак чайкі" з аўтографам пісьменніцы. У прадмове Віктара Цімафеева да кнігі знаходжу такія словы: "Сярод спадчыннікаў Акцябрыны Воранавай — празаік Надзея Бальшакова з Рэўды. Магчыма, яе калі-небудзь назавуць духоўнай дачкою Акцябрыны Воранавай. Яна захоплена многім, ужо напісана першая кніга, цыкл казак.

Праўда, Надзея Бальшакова піша на рускай мове, але яна імкнецца засвоіць саамскую мову сваіх прашчураў... Сляды гэтага засваення бачны ў яе казках і казаннях. Але галоўнае — неспатольнае жаданне Бальшаковай зачарпнуць, напіцца з духоўнай крыніцы тундравага народа, выцягнуць на свет з гістарычных цянётаў каштоўныя духоўныя зярняты, мастацкае азарэнне і запаветы продкаў для радасці і сэнсу, для любавання і павучання".

Так пачынаюць саамі, перакана्ныя ў сваім гістарычным праве на мову, на прыгожае пісьменства. Сёння ў літаратурным цэху свайго народа іх, літаратараў, — 10-15... У энцыклапедычным даведніку "Народы мира" гучала лічба ў 1,9 тысячы саамаў на Кольскім паўвостраве. Вядомыя вынікі перапісу на 1 студзеня 1997 года: у Лавазёрскім раёне — 927 саамаў. Усяго на Кольскім паўвостраве зараз саамаў каля паўтары тысячы.

Мужныя, наўздзіў мужныя людзі — барацьбіты за існаванне, за вяртанне свайму народу мовы. Вядомыя факты: буквар, кнігі на мове саамі сведчаць, што ў мовы далёкага нам паўночнага народа ёсць, існуе гістарычная перспектыва.

Не збіраючыся праводзіць якія б тамні было паралелі (даверымся ў гэтым чытачу), заўважыць хацелася б адно: з такім народам варта сябраваць, саамаў проста нельга не паважаць. А яшчэ ў народа з Лапландыі след і многаму павучыцца. Любому вялікаму народу.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

# *Ларыса Хмяльніцкая:* «АДКРЫВАЮ НЕВЯДОМУЮ ДЛЯ СЯБЕ БЕЛАРУСЬ...»

***Ларыса ХМЯЛЬНІЦКАЯ — з жанчын, якія былі сёлета ўшанаваны грамадскім прэс-цэнтрам "Дома прэсы" як выдатныя, адметныя руплівіцы, як самыя гаспадарлівыя і самыя арганізаваныя, самыя мужныя і самыя дзелавыя, самыя прыгожыя і... Словам, як лепшыя жанчыны краіны. І эпітэтаў для іх ніколі не будзе многа. Але, зазначыўшы, што Ларыса Яўгенаўна — кіраўнік мінскай турыстычнай фірмы "Трэвел", хацелася б усё ж пагаварыць з ёю пра справу. Ці дакладней — пра адзін бок справы, якою займаюцца ў "Трэвелы": арганізацыяй турызму ў Беларусі.***

**— Ларыса Яўгенаўна, вы пераканаы, што замежнікам цікава аглядаць Беларусь?..**

— Прызнацца, калі гаварыць пра мяне асабіста, то такое пытанне ў мяне і не ўзнікае нават. У нас ёсць што аглядаць. І не заўсёды абавязкова ехаць у Вільню альбо Кіеў ці Санкт-Пецярбург.

Іншая справа, што наш айчынны турызм дастойным чынам, калі хочаце, не аформлены. Не ўмеем мы яшчэ сябе прэзентаваць.

**— І як вы і ваша каманда збіраецеся змяніць сітуацыю?**

— А мы не збіраемся, а ўжо робім, ужо шмат што зрабілі. У Беларусі шмат энтузіястаў, шмат, я б так сказала, ахоўнікаў, зберагальнікаў старадаўняй культуры. Вось вам прыклад. Намі ўжо атрыманы дазвол з Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь на тое, каб у яго філіяле — Мірскім замку — ладзіць экскурсіі, прэзентацыі з паказам дзействаў, якія наладжвае рыцарскі клуб "Меч и ворон". Мала таго, што воіны выяўляюць сябе сапраўднымі артыстамі, яны яшчэ цудоўна прадстаўляюць эпоху, працуюць у дапамогу нашым экскурсаводам як пэўнага часу ілюстратары.!

**— Арганізацыя турыстычнай экскурсіі з такімі элементамі патрабуе не толькі большых фінансавых затрат, але і ўмення знайсці людзей, сабраць каманду...**

— Так. Па-першае, мы вучымся самі працаваць па-іншаму. Экскурсавод у значнай ступені становіцца арганізатарам. Па-другое, калі гаварыць пра тыя ж рыцарскія дзействы, я ўжо згадвала мінскі клуб "Меч и ворон". Хацела б выказаць удзячнасць яго кіраўніку Ігару Міхно. Дарэчы, і клуб, і Міхно — арганізатары, генератары фестывалю сярэдневечнай культуры "Наваградскі замак", мерапрыемства, якое заўжды збірае да дзесяці і болей тысяч гледачоў, сотні ўдзельнікаў з Расіі, Украіны, краін Балтыі, з Польшчы, Беларусі.

**— Дык туды і трэба везці турыстаў...**

—Але ж фестываль наладжваецца адзін раз у два гады. З такой перыядычнасцю працаваць мы, зразумела, не можам... Ёсць у нашых імпрэзах і выдатны рэжысёр — Мікола Макарцоў, колішні кіраўнік гомельскага тэатра "Жалейка". Ён напісаў сцэнарыі, арганізаваў многія святы — і ў Мінску, і па ўсёй Беларусі. Нядаўна пабываў на стажыроўцы ў замку Рын у Польшчы. І Мікола Макарцоў, і ўсе мы кіруемся адной ідэяй: ажывіць гістарычны аб'ект, зрабіць яго цэнтрам тэатралізаванага дзейства. Здаецца, гэта атрымліваецца. Ведаеце, вопыт работы ў сферы турыстычных паслуг пераконвае: у значнай ступені на характар турыстычнай экскурсіі ўплывае атмасфера. Вы ніколі не лавілі сябе на думцы, што цікава аглядаць не толькі цагляны альбо каменны гмах, але часам, калі побач адметны апавядальнік, шматкрат цікавей знаходзіцца ў голым полі, каля спрадвечнага кургана?.. Прывяду прыклад з Польшчы. Святая Ліпка. Звычайны касцёл, якіх па Беларусі — мноства. Але ў касцёле стаіць арган, рухаюцца фігуркі, якія прадстаўляюць сярэдневечча. Узнаўляюцца пэўныя гістарычныя эпізоды. У час экскурсіі да аргана падыходзіць вядомы ўсёй краіне музыкант, некалькі хвілін музіцыруе. Калі ў вас з'явіцца жаданне — дазволяць і вам на хвіліну стаць арганістам. Патрапіўшы ў такі асобны свет, знаходзішся пад уражаннем многіх рэчаў, пачынаеш інакш, чым звычайна, будзённа думаць. Ёсць і касцюмы, у якія вас гатовы апрануць, даць магчымасць сфатаграфавацца.

**— І ўсё ж у Беларусі няшмат дагледжаных помнікаў...**

— Вы памыляецеся. У нас не толькі руіны... Але працаваць можна і на месцах колішніх гістарычных помнікаў, там, дзе яшчэ патрэбен час, каб упарадкаваць і тэрыторыю, і правесці няпростую рэстаўрацыю.

**—Здаецца, сем гадоў назад у Беларусі ў Заслаўлі і "Дудутках" — прайшла міжнародная канферэнцыя "Музеефікацыя гістарычных тэрыторый". Яе ўдзельнікі шмат гаварылі і пра вяртанне да жыцця гістарычных беларускіх сядзіб...**

— Гэта не зусім наш профіль. Ёсць яркі прыклад — рэканструяваная сядзіба ў выглядзе музея матэрыяльнай культуры "Дудуткі". Іначай кажучы, і музей, і фірма "Дудуткі-ТУР" ладзяць сядзібны турызм. Мы ідзём іншым шляхам. Мы збіраемся паказаць усю Беларусь, прадставіць яе — асабліва замежнікам — у самых розных вобразах, у самых розных абліччах.



**— Але мы дакрануліся да тэмы, што, як бы таго не хацелася, Беларусь па насычэнні і захаванасці гістарычных помнікаў не дужа багатая...**

— Не, усё ж такі багатая. Нават напаўразбуранымі Гальшанамі Беларусь багатая. І ў прыватнасці, якраз у Гальшанскім замку можна ладзіць іншую турыстычную імпрэзу...

**— З ведзьмакамі і чарцямі?..**

— Вы як угадалі. Сёння ўжо ёсць такі турызм — у Расіі, у Англіі. Людзі ахвотна едуць у замкі, якія авеяны легендамі. Калі Амерыка развівае экстрым у спорце, розных забаўляльных праектах, то чаму б не зазірнуць у таямніцы сярэдневечча?..

**— І не сустрэцца з Чорнай Дамай Нясвіжа...**

—Гістарычная, краязнаўчая літаратура багатая легендамі, паданнямі. Так ці іначай яны і раней скарыстоўваліся ў маналогах экскурсаводаў. Але не было відовішчнасці, не было, калі хочаце, элементаў тэатра.

**— Выходзіць, што сучасная турыстычная экскурсія — спектакль!**

— Так. Але толькі дзеючымі асобамі, акцёрамі выступаюць усе ўдзельнікі экскурсіі. А гід, экскурсавод — граматны рэжысёр.

І ў Беларусі, паверце, можна зрабіць падарожжа па часе, патрапіць у самыя розныя стагоддзі. І ўвогуле з'явілася задумка: чаму б не правесці асобны тур, які быў бы прысвечаны Вялікаму Княству Літоўскаму, замкам яго часоў?

**— Мы гаварылі пра замкі, пра магчымыя захапляльныя ўражанні ад знаёмства замежнікаў, прыкладам, з Гальшанамі ці Мірскім замкам у спалучэнні з дзействамі, якія вы там ладзіце альбо гатовыя наладзіць. Але ж адкрыццё невядомай эпохі прадугледжвае і знаёмства з яе побытам...**

— І мы гэта ўлічваем. Сваю работу мы будуем у цесных стасунках з музеем народнай архітэктуры і быту ў Строчыцах, з музеем у Івянцы, з заслаўскімі музейшчыкамі. А ўвогуле канцэптуальна склалі дзве праграмы. Першая звязана з каляндарна-абрадавымі святамі. Другая носіць сямейна-гістарычны характар. Першую праграму плануем на год наперад. А гэта — і "На сядзібу Дзеда Мароза", і "Ой, Каляда", іншыя відовішчныя турыстычныя імпрэзы. Іх можна арганізоўваць у самых розных куточках Беларусі. Галоўнае — мець сцэнарый, быць папярэдне падрыхтаванымі. Заўважу, што кожная з імпрэз, кожнае з захапляльных шоу суправаджаецца і сур'ёзным знаёмствам з беларускай кулінарыяй.

А што да праграм індывідуальных, то мы можам працаваць і выключна для невялікага кола сяброў, сямейных пар, якія вырашылі адпачыць альбо адзначыць сваёй кампаніяй пэўную ўрачыстасць, пэўную дату. І пры гэтым святкаванне спалучаюць са знаёмствам, адкрыццём народных традыцый. Спраектавалі, калі можна так сказаць, і праграму "вяселле". Кожны з турыстаў можа прымерацьда сябе ролю ўдзельніка, ганаровай асобы на беларускім вяселлі. Маладыя пары, іх гасцей мы запрашаем у фальклорную вёску, у карчму да Васіля і Ганны. Знаёмства з сялянскім побытам Беларусі — і правядзенне праграмы "Беларусь сінявокая". Усіх аб'ядноўвае хлебасольная карчма "У Міколы". Ізноў — частаванне, музыкі і танцоры. А часам на сядзібу, на беларускі хутар завітвае нават і цыганскі табар. А гэта, самі разумееце, спевы, танцы, ноч пад зоркамі...

Ёсць яшчэ блізкая людзям, цёплая праграма па самой назве — "Цяпло матульчынай хаты". Разам з турыстамі адпраўляемся на хутар Дзяржынова, у Налібоцкую пушчу, дзе нас чакаюць цяпельца вясковай печы, бліны, іншы пачастунак і нават падарункі з сямейнага куфэрка.

**— Словам, і тут вы адкрываеце новую для некага Беларусь...**

— І, прызнацца, часам — новую і невядомую і для сябе.

**Гутарыў Кастусь ЛАДУЦЬКА**




ЗАСНАВАЛЬНІК

**Саюз беларускіх пісьменнікаў**

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА

**У 1982 годзе ўзнагароджаны ордэнам Дружбы народаў**

**В. А. ГАЛОЎНАГА РЭДАКТАРА**

**Віктар ШНІП**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА,**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**

**Алесь ГАЎРОН — адказны сакратар,**

**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220005, Мінск, вул. Захарава, 19**



**ТЭЛЕФОНЫ:**

**Прыёмная рэдакцыі — 284-8461**
**намеснік галоўнага рэдактара — 284-8525**
**адказны сакратар — 284-8204**

**АДДЗЕЛЫ:**

**публіцыстыкі — 284-8204**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-8462**
**літаратурнага жыцця — 284-8462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 284-8462**
**паэзіі і прозы — 284-8525**
**музыкі — 284-8153**
**тэатра, кіно — 284-8153**
**выяўленчага мастацтва — 284-8462**
**карэктарская — 284-4404**
**бухгалтэрыя — 236-6113**
**Тэл./факс — 284-7965**



*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*



Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79

Індэкс 63856 Наклад 1637
Нумар падпісаны ў друк 10. 10. 2002 г. у 17.30

Рэгістрацыйнае Пасведчанне № 715

Заказ 2334

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12